Міхась Белямук

# ВЫТОКІ БЕЛАРУСКІХ ПЯЧАТКАЎ

Паводле А. Малчанава тэрмін "пячаць" у старажытнай Русі азначаў "хірограф" той ці іншай асобы... і пасутнасьці мог быць на кожнай рэчы. /1, б.80/

Ў ўмове Русі зь Бізантыяй 945 г. патрабавалася, каб паслы, апрача залатых пячаткаў, а госьці - сярэбраных, прыносілі яны з сабой граматы. Там-жа сказана: "Ношаху сли печати злати, а гостье сребрени". /2, б.35/

Слова "ношаху" можна тлумачыць, што да пячаткаў прымацоўвалі ланцужкі або жычкі; і пячаткі завешвалі на грудзі, калі адведвалі Бізантыю. Прыпусьцім, што было гэтак. Тады названыя ў умове пячаткі ў сапраўднасьці былі падвескамі. Чаму-ж падвескі названыя пячаткамі ? Праўдападобна, таму, што на падвесках быў княжы знак-хірограф. Такім чынам, падвеска-пячатка з княжым знакам рэспэктавалася Бізантыяй да 945 г. як верыцельная грамата Русі.

Бізантыя ў 945 г. запатрабавала ад Русі пісаных верыцельных граматаў. Вымаганьне Бізантыі сьведчыла-б, што на Русі ўжо былі пачаткі пісьменства й таму яна патрабавала, каб паслы й купцы прыходзілі зь пісанымі верыцельнымі граматамі. Гэта азначала-б, што 40 год да афіцыйнага хрышчэньня Русі ў ёй знайшліся людзі, якія змаглі пісаць граматы юрыдычна-дыпляматычнага характару. Мы аднаго толькі ня ведаем, ці да гэтых пісаных верыцельных граматаў прывешвалі пячаткі, г.зн., ці дакумэнты пачалі пячатаць пячаткамі.

Ў наступнай умове Русі зь Бізантыяй, у 971 г., гаворыцца: "Написахомъ на хартьи сей и своими печатьми запечатахом ". /2, б.52/ Цяпер сумніваў мы ня маем, што ад 971 г. пачынаецца практыка - пячатаць дакумэнты пячаткамі.

............

Русь з IX ст. знаходзілася ў сфэры ўплываў бізантыйскае культуры. На тэрыторыю Русі, разам з тым на нашыя землі, пранікалі й замацоўваліся традыцыі бізантыйскае канцылярыі. Аб бізантыйскіх уплывах сьведчаць пячаткі, якія прывешвалі да дакумэнтаў і звалі буламі. Калі іх адціскалі ў волаве, тады звалі маліўдавуламі. Пячаткі адціснутыя ў серабры звалі агіравуламі, а адціснутыя ў золаце - хрысавуламі.

Міхась Белямук

# ВЫТОКІ БЕЛАРУСКІХ ПЯЧАТКАЎ

Паводле А. Малчанава тэрмін "пячаць" у старажытнай Русі азначаў "хірограф" той ці іншай асобы... і пасутнасьці мог быць на кожнай рэчы. /1, б.80/
У ўмове Русі зь Бізантыяй 945 г. патрабавалася, каб паслы, апрача залатых пячаткаў, а госьці - сярэбраных, прыносілі яны з сабой граматы. Там-жа сказана: "Ношаху сли печати злати, а гостье сребрени". /2, б.35/

Слова "ношаху" можна тлумачыць, што да пячаткаў прымацоўвалі ланцужкі або жычкі; і пячаткі завешвалі на грудзі, калі адведвалі Бізантыю. Прыпусьцім, што было гэтак. Тады названыя ў умове пячаткі ў сапраўднасьці былі падвескамі. Чаму-ж падвескі названыя пячаткамі ? Праўдападобна, таму, што на падвесках быў княжы знак-хірограф. Такім чынам, падвеска-пячатка з княжым знакам рэспэктавалася Бізантыяй да 945 г. як верыцельная грамата Русі.

Бізантыя ў 945 г. запатрабавала ад Русі пісаных верыцельных граматаў. Вымаганьне Бізантыі сьведчыла-б, што на Русі ўжо былі пачаткі пісьменства й таму яна патрабавала, каб паслы й купцы прыходзілі зь пісанымі верыцельнымі граматамі. Гэта азначала-б, што 40 год да афіцыйнага хрышчэньня Русі ў ёй знайшліся людзі, якія змаглі пісаць граматы юрыдычна-дыпляматычнага характару. Мы аднаго толькі ня ведаем, ці да гэтых пісаных верыцельных граматаў прывешвалі пячаткі, г.зн., ці дакумэнты пачалі пячатаць пячаткамі.

У наступнай умове Русі зь Бізантыяй, у 971 г., гаворыцца: "Написахомъ на хартьи сей и своими печатьми запечатахом ". /2, б.52/ Цяпер сумніваў мы ня маем, што ад 971 г. пачынаецца практыка - пячатаць дакумэнты пячаткамі.

............

Русь з IX ст. знаходзілася ў сфэры ўплываў бізантыйскае культуры. На тэрыторыю Русі, разам з тым на нашыя землі, пранікалі й замацоўваліся традыцыі бізантыйскае канцыляры. Аб бізантыйскіх уплывах сьведчаць пячаткі, якія прывешвалі да дакумэнтаў і звалі буламі. Калі іх адціскалі ў волаве, тады звалі маліўдавуламі. Пячаткі адціснутыя ў серабры звалі агіравуламі, а адціснутыя ў золаце - хрысавуламі.

Беларускія пячаткі пераважна адціснутыя ў волаве. Аднак, калі дакумэнт меў вялікую важнасьць, тады да яго прывешвалі пячаткі адціснутыя ў серабры й золаце.

Полацк і Віцебск, праўдападобна, былі саўдзельнікамі перамоваў пры ўкладаньні гандлёвае ўмовы Смаленска з Рыгаю й Готляндам у 1229 г. /3, б.213; 4,б.111/ Гандлёвая ўмова з упаўнаважаньня Полацка й Віцебска была колькі разоў адноўленая Смаленскам. У часе кожнай ратыфікацыі прывешвалі пячаткі. Нажаль, сёньня зьбераглісі толькі чатыры пячаткі. Сярэбраныя - князя Хведара Расьціславіча з 1270-1277 гг., князя Глеба Расьціславіча з 1284 г. і япіскапа смаленскага Парфіра з 1284 г. Залатая пячатка князя Аляксандра Глебавіча з 1299-1300 гг. /5, б. 53-54, 56, 59, 62/

Бізантыйская традыцыя адцісканьня пячаткаў у волаве паступова на беларускіх землях адмывае. Захадня-эўрапэйская практыка адцісканьня пячаткаў у воску пачынаецца ў Панямоньні ад сярэдзіны XIII ст. Пячаткі князя Мендаўга рэпрэзэнтуюць новы пачатак. /6, б.706-707/ У Смаленску князь Александар Глебавіч прывесіў васковую пячатку да пацьвярджальнай граматы ў 1300г. /5, б.69/ У Полацку бізантыйская традыцыя валавяных пячаткаў дажывае прыблізна да сярэдзіны XIV ст. Полацкія пячаткі з 1338/1341 г. князя Глеба й япіскапа Рыгора адціснутыя ў волаве. Адылі пячаткі "княгіні Андрэевай", жонкі князя Андрэя Альгердавіча й ягоных сыноў Яна й Сымона Андрэявічаў з 1387/1389 гг., ужо адціснутыя ў воску. /7, I, б.41, 54-55; 8, IV, б.133-134/

Так пачынаючы ад пячаткаў Мендаўга, Аляксандра Глебавіча, Гэдыміна й Альгэрда,захадня-эўрапэйская практыка адцісканьня пячаткаў у воску замацоўваецца на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Воск быў спэцыяльна прыгатаваны й афарбаваны ў белы, жоўты, зялёны, малінавы, чырвоны, чорны колеры. Вялікакняжыя пячаткі адціснутыя пераважна ў чырвоным воску. Полацкія япіскапы ўжывалі воск цёмна-жоўты, зялёны й чорны. Прымацоўвалі пячаткі да дакумэнтаў пэргамэнтнымі тасёмкамі ці жычкамі, шаўковымі й льнянымі рознакалёрнымі шнуркамі.

.............

Спасярод усходня-эўрапэйскіх пячаткаў найстарэйшай вядомай пячаткаю ёсьць пячатка полацкага князя Ізяслава, які памёр у 1001 г. Ягоную пячатку знайшлі ў Ноўгарадзе падчас археалягічных раскопаў у 1953 г. На правым баку пячаткі зьмешчаны княжы знак, а вакол яго легэнда. В. Янін разчытаў "Изас..озо". На левым баку пячаткі таксама нейкі знак і вакол яго легэнда, але разчытаць яе нельга. Пячатка, паводле В. Яніна, ёсьць унікальнай знаходкай. /9, б.39-40; 10, б.157-158/

Пячатка з вобразам сьвятых Юрыя й Сафіі была знойдзеная ў Ноўгарадзе каля 1906 г. Яна выкананая ў стылі XII ст. Сфрагістыя пачалі паміж кіеўскімі й наўгародзкімі князямі шукаць уласьніка пячаткі. Паколькі князь Ігар Алегавіч меў хрысьціянскае імя Юрыя, яго зрабілі ўласьнікам пячаткі. То што ён у Кіяве праняхаў 13 дзён, дасьледчыкі пячаткі не ўзялі пад увагу. На нашае шчасьце ў 1962 г. праводзіліся археалягічныя раскопы ў Кукейносе /Кокнесе/. У пласьце з XII ст. знайшлі пячатку падобную да пячаткі знойдзенай у Ноўгарадзе. Беларускі археоляг - Г. Штыхаў - забраў голас у справе пячаткаў з вобразамі Юрыя й Сафіі. Паколькі князі Кукейноса былі ў залежнасьці ад Полацка, Г.Штыхаў зрабіў выснаў, што знойдзеная пячатка паходзіць з Полацка. Ён зьвярнуў увагу на славуты крыж прэпадобнае Ефрасіньні Полацкае зроблены ў 1161 г. На дзяржальні крыжа маюцца іконкі сьвятых Юрыя й Сафіі. Бацька прэпадобнае Ефрасіньні, Сьвятаслаў Усеславіч, меў хрысьціянскае імя Юрыя. Г. Штыхаў вырашыў - маці прэпадобнае Ефрасіньні, праўдападобна, называлася Сафія, таму на крыжы зьмясьцілі патронку маці Ефрасіньні. Адсюль стала зразумелым, што пячатка належыць не мужчыне, але жанчыне - Сафіі, будучы замужам за Юрыям. Сфрагісты В. Янін прызнаў аргумэнтацыю Г. Штыхава слушнай. Іншыя сфрагістыя таксама пагадзіліся. Так, уласьніцай пячаткаў сталася полацкая княгіня Сафія. Яна стала заснавальніцай пячаткаў беларускіх княгіняў. / 11, б.106-108; 12, б.91, 101; 13, б.244-245; 14, б.102, 209, 232 /

У 1970 г. было 35 пячаткаў з надпісам "Дынѣслово" на правай старане; на левай быў вобраз і імя сьвятога. Н.Ліхачоў быў схільны ўсю групу пячаткаў зьмясьціць у храналагічныя рамкі канца XI- пачаткі XII стагодзьдзяў. В.Янін падтрымаў апінію Н.Ліхачова. Паводле В. Яніна, пячаткі "Дынѣслово" зьявіліся, калі Сьвятаполк Ізяславіч заняў кіеўскі княжы пасад. В. Янін уважае, у групе пячаткаў "Дынѣслово" знаходзяцца ня толькі княжыя пячаткі, але пячаткі мітрапаліта й япіскапаў з пэрыяду 1093-1113г. Калі выснавы Н. Ліхачова й В. Яніна правільныя што да пячаткаў "Дынѣслово", то пячатка з вобразам сьвятога, імя якога было Міна, належыць полацкаму япіскапу Міны.

Летапісы аднатоўваюць, што дня 13 сьнежня 1105 г. быў хіратанісаны мітрапалітам Нікіфарам Міна на епіскапа Полацкага. Ён памёр 20 чэрвеня / у некаторых крыніцах 20 ліпеня/ 1116 г. Пячатка япіскапа Міны была знойдзеная ў 1909 г. каля вёскі Янчын /сёньня Іванаўка/, Перамышльскага р-на, Львоўскай вобл. Яна была першы раз апублікаваная Э. Грэбняком у 1915 г. Пячатка перахоўвалася ў нацыянальным музэі ў Львове. Падчас апошняе вайны пячатка загінула.
/14, б.75, 79, 82, 84, 186; 15, б.167, 168, 172; 16, б.281, 291; 17, б.257; 18, б.140, 150; 19, б.27, 388; 20, б.170-173; 21, б.27 /

Калі-б у будучыні знайшлі большую колькасьць пячаткаў і задумалі сфрагістыя ўнесьці папраўкі ў датаваньні пячаткаў "Дыяб-слова", і пячатку з вобразам сьв. Міны прыпісалі іншаму ўласьніку, мы ўсё-ж маем пячаткі япіскапаў нашых, якія засьцярогаў не выклікаюць.

Л. Гарошка прыпушчае, што Дзяніс стаў полацкім япіскапам у 1167г. У "Жыцьі" прэпадобнае Ефрасіньні Полацкае ўспамінаецца япіскап Дзяніс. Гаворыцца там, што Дзяніс прыйшоў да ігумені Ефрасіньні паблагаславіць яе, бо яна плянавала падарожжа да царгародзкага патрыярхі й паломніцтва ў Сьвятую Зямлю. Паколькі Ефрасіньня памерла, праўдападобна, у травені 1173г., то візыт яп. Дзяніса адбыўся ўзімку 1172/1173 г.
/4, б.395; 22, б.78; 23, б.13 /

Мітрапаліт Нікіфар хіратанісаў для Растова япіскяпа Міколу, але Усевалад Юр'евіч не ўпусьціў яп. Міколу ў суздальскае княства. Полацкі яп. Дзяніс, праўдападобна, цяжка захварэў і паслалі ў Полацк яп. Міколу ў 1182г. Япіскап Дзяніс памёр у 1183г.
Пячатку яп. Дзяніса знайшлі ў Ноўгарадзе ў 1954г. Яна на правым баку мае вобраз Богамаці "Знамене", на левым баку легэнда грэцкімі літарамі: "Пячатка Дзяніса, япіскап Полацка".
/14, б.57-58; 15, б.202,206; 16, б.390-391; 17, б.629-630; 24, б.496; 25, б.201-202 /

Расьціслаў стаў смаленскім князем каля 1125г. Смаленскія баяры й Расьціслаў пастанавілі ўнезалежніць Смаленскае княства,— сьпярша вызваліцца з пад улады пераяслаўскага япіскапа, а пазьней ад кіеўскага князя. У начы з 14/15 красавіка 1132г. памёр князь кіеўскі Мсьціслаў, яго месца заняў брат Яраполк.
/25, б.243; 27, б.39; 28, б.65,68-69,71; 29, б.198,240,242/

Пераяслаўскі яп. Марк /Маркель/ меў у Смаленску свайго намесьніка Мануіла. Япіскап Марк памёр 6 студзеня 1134г. Пераяслаўская япіскопія заставалася вакантнай. Мітрапаліт Міхал два разы наведаў Смаленск, першы раз у лістападзе 1134г., другі раз у лютым 1135г. Мэтай падарожжа мітрапаліта быў Ноўгарад.
Праўдападобна Расьціслаў выкарыстаў нагоду вакантнасьці пераяслаўскай япархіі й візыту мітрапаліта, ён зьвярнуўся з просьбаю да мітрапаліта на ўтварэньне самастойнае Смаленскае япіскопіі. Мітрапаліт пагадзіўся адзяліць Смаленск ад Пераяслаўля. Пратэставаць ня было каму. Князь Расьціслаў пасьпяшыў выдаць дакумэнт у якім пералічыў княжыя дараваньні для япіскопіі.
/5, б.75-80; 26, б.23,208; 27, б.44; 28, б.65,68-69,71; 30, б.140-145 /

Дня 26 красавіка, у нядзелю, 1136г. адбылася хіратонія Мануіла на япіскапа смаленскага. Ён быў апошнім намесьнікам пераяслаўскім у Смаленску. Мануіл прысутнічаў на саборы ў 1147 г., калі абіралі Кліма Смаляціча на мітрапаліта. Ён спатыкаў Расьціслава ў 1167г., але ў 1180г. маем Канстантына ў Смаленску.
Пячатка яп. Мануіла на правым баку мае вобраз Богамаці "Знамене", на левым баку легэнда грэцкімі літарамі кажа: "Мануіл, япіскап Смаленска".

/14, б.57-58,178; 15, б.202,206; 16, б.304; 17, б.300,528; 18, б.160; 25, б.51,137,326; 28, б.60,61,71 /

У Полацку знаходзілася рэліквія — крыж прэпадобнае Ефрасіньні Полацкае. Бібліяграфія аб крыжы даволі багатая. /31, б.242-244/ Такой бібліяграфіі ня мае прэпадобная Ефрасіньня. Прычыны ёсьць палітычныя. Прыкладам быў 1973 год, калі прыпалі 800 угодкі яе сьмерці.

Дня 21 красавіка 1973г. у Таронце /Канада/ адбылася сэсія Рады БНР. На сэсіі вынесьлі пастанову: "Рада БНР уважае за адпаведнае абвесьціць ідучы 1973 год з а л а т ы м юбілейным годам.. і заклікае ўсё беларускае грамадзтва прысьвяціць гэты юбілейны год вывучэньню, у с ь в е д а м л е н ь н ю... усей баковай ацэне й абароне пазытыўнае спадчыны беларусізацыі ".

Што-ж гэта за залаты юбілей, які нам праваслаўным беларусам Рада БНР суліць сьвяткаваць у замену за 800 годзьдзе Ефрасіньні Полацкае ? Чаму Рада БНР хоча "усьведамляць" нас цяпер, калі мы дачакаліся гэтае славутае гадавіны слаўнае Палатчанкі ?

Рэдактар газ. "Беларус", Ст. Станкевіч тлумачыць: "Сёлета спаўняецца 50 год ад абвешчаньня на XII Усебеларускай п а р т ы й н а й канфэрэнцыі ў сакавіку 1923 году новага курсу нацыянальнае палітыкі б а л ь ш а в і к о ў, што атрымала назоў беларусізацыі". / 33, б.1,2 /

Жах да якой нікчэмнасьці дайшла Рада БНР. Жах, якімі нягоднікамі сталі праваслаўныя радныя Рады БНР. Жах, што герархія БАПЦ не зарэагавала, не асудзіла тых радных, якія прыймалі ўдзел у сэсіі Рады БНР.

Як ацэніваюць і шануюць прэпадобную Ефрасіньню людзі навукі - архэолягі, гісторыкі й даසьледчыкі беларускіх старажытнасьцяў ? Прывядзем шэсьць прыкладаў. Чатыры навукоўцы беларускай нацыянальнасьці, а два - расейскай.

В. Чамярыцкі: "Сама Ефрасіня чалавек шырокіх поглядаў, не магла быць абыякавай да тагачаснага палітычнага жыцця Полаччыны... Таму і ўзнікненьне кароткага летапісу Рагвалода натуральней за ўсё звязываць з дзейнасцю полацкага Спаскага манастыра і яго ігуменні Ефрасіні".

М. Прашковіч: "Аўтарам полацкага летапісу была Ефрасіння. Гэты факт адкрывае новую старонку ў яе асветніцкае дзейнасці, паказвае, што манашка Ефрасіння жыла інтарэсамі сваёй зямлі, імкнулася поўным чынам уздзейнічаць на яе грамадзка-палітычнае становішча".

Г. Штыхаў: "Асьветніца карысталася вялікай павагай сярод сучаснікаў. Да яе звярталіся за парадамі па многіх пытаннях. Яна прымала непасрэдны ўдзел у грамадзкім жыцці Полацка.... Гэта была незвычайная для свайго часу жанчына, энергічная, працавітая й валявая... Яна адукаваная жанчына, асветніца з Полацка, была "небапарным арлом", як сказана ў старажытным творы, гордасцю сваёй зямлі".

М. Ермаловіч: "Пад яе манаскай вопраткай білася гарачае сэрца грамадзянкі, якой рупіла заняцца асветніцкай дзейнасцю.. Яе дзейнасць абуджала інтэлектуалныя сілы тагочаснага грамадзтва, выклікала да творчасці новыя таленты і давала стымуль іх развіццю. Ефрасіння згуртавала вакол сябе плеяду выдатных людзей... Мы ведаем некаторых... дойліда Івана... выдатнага майстра Лазара Богшу ".

Л. Алексеев: "Главным культурным центром страны стала полоцкая София. Здесь "спасалась" Евфросинья Полоцкая, занимаясь перепиской и распространением книг, здесь, по-видимому, в это время были заложены основы ценной и знаменитой библиотеки... В ней, кроме летописей, было много сочинений греческих отцов церкви... Переводы с греческого большей частью религиозно-нравственного содержания, которие с усердием переписываются Евфросиньей Полоцкой. Однако полоцкая просветительница не была слепой поклонницей Византии, с которой ее связывали еще и узы родства с императором. С ее одобрения вблизи Полоцка дерзновенно поднялся храм, резко порывавший с византийским каноном и утверждавший своим появлением первые самостоятельные высоты молодого руского храмоздательного искусства".

В. Янин: "В русских летописях немало Евфросиний. И все те из них, о ком мы что-нибудь конкретного знаем, получили это имя при поступлении в монастырь /может быть, потому, что Евфросиния в переводе с греческого значит "благоразумная"/. В XII в. жила на свете еще одна Евфросиния. Хотя летописи и не называют ее, тем не менее она самая знаменитая изо всех "благоразумых". Ее почитали при жизни, а после смерти причислили к лику святых. Реч идет о Евфросинии Полоцкой... "С малых лет она отличалась необыкновенной красотой... Но она решила уйти в монастырь. Предслава тайком ушла из дому... постриглась под именем Евфросинии... Спустя какое-то время Евфросиния добилась у епископа разрешения основать свой монастырь в окрестностях Полоцка... Руками мастера Ивана княгиня-монашка построила соборную церковь Спаса..." Таков рассказ ее "жития". Он лишон фантастических подробностей, в нем нет сообщений о чудесах, о исцелениях, о видениях... Рассказ прозаичен, деловит, в нем нет ничего, что нужно было бы специально выдумывать. Самый внушительный свидетель деятельности Предславы-Евфросинии - Спасский собор. Историки зодчества датируют его как раз серединой XII века... В Византии праздник Всемилостивого Спаса был установлен раньше, чем на Руси... Академик Н.П. Кондаков, крупнейший знаток византийских древностей, относит учреждение праздника I августа к II52 г. в Византии, II64 г. на Руси... Но ведь это все даты, находящиеся внутри хронологических рамок деятельности Евфросинии Полоцкой! Она основала монастырь, а потом в нем была построена каменная церковь Спаса. Причем все это случилось до II6I г., когда в уже существующею церковь был положен изготовленный Богшей крест. Значит, церковь Спаса вообще была одной из самых первых, посвященных новому празднику... Значит, полоцкая княгиня не сидит в женской половине княжеского дворца, и даже в монастыре ей нет покоя, она сносится с отдаленными землями и правит Полоцком ".

/ 34, б.96; 35, б.28; 36, б.149; 37, б.225,226; 38, б.228,229; 39, б.18,19 /

У 1968 г. на Гарадзішчы ў Ноўгарадзе рыбакі знайшлі пячатку. Майстра, што выразаў матрыцу /штэмпель/ пячаткі, быў выдатным ювэлірам. Знойдзеная пячатка вызначаецца прыгожым выкананьнем. Бізантыйскія майстры славіліся за дэлікатнасьць і прэцызыйнасьць сваіх вырабаў. Знойдзеная пячатка падобная да бізантыйскіх пячаткаў.

На правым баку пячаткі зьмешчаная незвычайная кампазыцыя. Такой кампазыцыі не сустрэлася на пячатках старажытнай Русі. У цэнтры зьмешчаная фігура Хрыста. Паабапал Яго стаяць прарокі -- Майсей і Ільля. У нагах Хрыста, паўшыя на зямлю, апосталы - Ян, Пётр і Якаў. Несамавітую сцэну тлумачыць грэцкі напіс: МЄТА /МОР/ ФОС /ІС/ -- Перамяненьне /Прэабражэньне/. Атрымовуецца, што пячатка сваім выкананьнем, кампазыцыяй і напісам сьведчыць, што яна бізантыйскага паходжаньня, што ўласьнікам яе была асоба духоўнага сану.

На левым баку пячаткі сярэдзіну поля займае фігура ў манаскім капюшоне на галаве, а вакол галавы німб, значыць, што сьвятая. Напіс, што паясьняе сьвятую, зроблены славянскімі літарамі, чытаем: "НЄФРОСІНЯ ". Па пэрымэтру пячаткі славянскімі літарамі: " ГИ /Госпадзі/ ПОМОЗИ РАБЄ СВОЄИ ЄФРОСИНИ НАРЄЧЄННОЙ ".

Слова "нарэчэнай" не зьмясьцілі па пэрымэтру й прыйшлося дзьве літары зьмясьціць над плячом сьвятой. Гэтым парушылася элегантнасьць кампазыцыі. Праўдападобна ўласьніца настойліва патрабавала, каб на пячатцы было слова "нарэчэнай". Яна хацела засьведчыць , што імя "Ефросіня" ёсьць не хроснае, але манаскае. Такім чынам, яна прадэманстравала, што ўласьніцай пячаткі ня ёсьць сьвецкая асоба, княгіня, але манашка, нарэчэна Єфрасіньня.

На правым баку маем Перамяненьне. Паводле В.Яніна, правы бок рэпрэзэнтуе манастыр у якім ігуменяй была манашка Єфрасіньня, уласьніца пячаткі. Манастыры Перамяненьня, паводле В. Яніна, маглі называцца Спаскімі манастырамі. Затое Спаскія манастыры не называліся манастырамі Перамяненьня.

Каля Полацку, у ранейшым Сельцы, знаходзіцца сабор пабудаваны ігуменяй Єфрасіньняй і ён называецца Спаскім саборам, але ён пабудаваны ў сярэдзіне XII ст. Ён ня можа быць царквой Перамяненьня ў якой былі пахаваныя полацкія япіскапы. В. Янін зрабіў пошукі ў архівах. Ён адшукаў "Жытія" прэпадобнае Єфрасіньні Полацкае.

У адным зь сьпісаў апісываецца сон Єфрасіньні, што яна ўбачыла анёла, які загаў ёй пакінуць сабор полацкае Сафіі, а ісьці ў Сяльцо дзе знаходзіцца царква Перамяненьня з пахаванымі япіскапамі. Раніцой да Єфрасіньні прыйшоў полацкі япіскап Ільля. Ён расказаў свой сон. Зьмест ягонага сна супадаў зь зьместам сна Єфрасіньні. В. Янін зрабіў выснаў, што царква ў Сяльцы была Перамяненьня й першапачатна манастыр закладзены Єфрасіньняй называўся манастыром Перамяненьня.

Такім чынам, дзякуючы пячаткі, мы даведаліся цікавую дэталь з гісторыі Полацка. Мы наважыліся запрапанаваць, каб царкву, якую раскапаў М. Каргер у 1961-1964 гг. назваць царквой Перамяненьня. У гэтай царкве М. Каргер знайшоў 29 склепаў і была яна царквой магільнай .

/14, б.231-232, 234; 39, б.17-19; 40, б.240-247 /

Цяпер можна зрабіць невялікае абагульненьне. Беларускія княжыя пячаткі выток і свае бяруць у X ст. Пячаткі княгіняў, япіскапаў, ігуменьняў /манастырскія/ пачынаюцца ў першай палове XII ст.

Аднак перад намі ўзьнікае пытаньне. У якім-жа стагодзьдзі зьявіліся пячаткі баяраў, мяшчанаў і местаў ? Калі яны пачалі пячатаць дакумэнты сваімі пячаткамі ?

В. Гаўрыленка кажа: "пячатка заўсёды была атрыбутам улады". Калі было гэтак, то князь, аддаючы баярыну ў адміністрацыю замак ці места, павінен яму даць упаўнаважаньне на собскую пячатку. Пячатка прывешаная баярынам-адміністратарам да дакумэнту сьведчыла-б, што ён ад князя атрымаў "атрыбуты ўлады". / 41, б.17 /

За панаваньня князя Віценя адзначыўся мужнасьцю баярын Давыд, менавіта падчас абароны Наваградка ад крыжакоў у 1314 г. Ён выявіў тады вайсковы талент. Крыжацкія харугві ўварваліся ў Панямоньне. Часьць крыжацкага войска аблягала Наваградак, а другая частка пустошыла край. Давыд аблягаючых рыцараў пазбавіў жыўнасьці. Крыжацкія абозы былі захопленыя. Ад крыжацкіх рыцараў адабралі 500 баявых коняў. Прымусіў ворага адступаць. Давідавыя воі, раставўленыя ў стратэгічных месцах, на галодных і стомленых рыцараў нападалі зьнячэўку. Зьнясіленыя адзінкі з крыжацкае арміі дабраліся да Прусіі.
/ 42, б.46; 43, б.419 /

Наступнік Віценя, князь Гэдымін, ацаніў сьмеласьць і здольнасьць Давыда. Гэдымін прызначае Давыда горадзенскім старастай. Горадня была стратэгічным местам — Панямоньне абараняла ад крыжацкіх рэйдаў. Давыд выконваў заданьні выдатна. Ён быў энэргічны, рахманы, разважлівы й станоўчы стараста. У Гэдыміна здабыў ён пашану, стаў зяцем вялікага князя.
/42, б.45; 44, б.380; 45, б.7; 46, б.107-108/

У 1322 г. напалі мечаносцы на пскоўскія месты - Гдоў і Чэремесьць. Пскоўскі летапісец кажа: "послалі псковічы па Давыда князя ў Літву. Давыд князь прыехаў. Ён пайшоў з псковічамі за Нерову, і паланілі зямлю нямецкую аж да Калывані".
Год мінуў, мечаносцы атрымалі дапамогу з Заходняе Эўропы й прыйшлі, каб пустошыць пскоўскую зямлю. Пскоўскі летапісец ў смутку дакарае: "пасылалі мы ганцоў да вялікага князя, да Юрыя ў Ноўгарод, дапамогі прасілі й яе не атрымалі. Прытужна было вельмі Пскову... Але, Божым провідам, зьявіўся князь Давыд з Літвы з сваімі мужамі... Мужоў псковічаў сабраў і пагналіся яны за Вялікую раку... "Пороки их отяша, и городы ихъ и иная их замышлениа зажгоша, и отбегоша Немци съ многим стоудомъ и срамомъ. А князь великии Юрьи и новогодци не помогоша. И потомъ мале днии приехаше силнии послове изо всея земли Немецкиа во Псков и докончаша миръ по псковской воли по всеи".
/42, б.46-47; 43, б.393; 44, б.375; 47, т.І, б.15-16, 47А, б.22-23, 89-90; 48, кн.ІХ, б.156, 161 /

Горадзенскі староста ня толькі памагаў псковічам. Ён у 1316 годзе дапамагае прускім плямёнам у змаганьні з нямецкай навалай. Калі ўзьнікла непаразумленьне паміж княствамі Плоцкім і Добжыньскім, Давыд сьпяшыць памагчы швагру Вацлаву, плоцкаму князю. Неспадзяванай атакай, Давыд здабывае места Добжынь у 1323 годзе.

Князі мазавецкія стараліся замацаваць сваё панаваньне на Падляшы. Земавіт мазавецкі ня зьчыў пайсьці на ўступкі, не хацеў зрачыся прэтэнзіяў што да Падляша. Давыд у верасьні ў 1324 г. "najechawszy zbrojnie ziemię mazowiecką i zaatakowawszy w dzień sw. Elżbiety należące do biskupa plockiego miasto Pułtusk i sto trzydzieści okoliczmych wsi, spustoszył wszystko pożarami i grabieżami, spalił trzydzieści kościołów parafijalnych i cztery tysące dusz uprowadził w niewolę."

Князь Земавіт схамянуўся, пайшоў на пагадненьне. Падляша далучыў Гэдымін да Вялікага Княства Літоўскага.
/48, б.119,157,161; 49, б.265, 267-268, 270-271 /

Польскі кароль Уладзіслаў Локетак вырашыў парадніцца з Гэдымінам праз жанімства дзяцей. Дня 16 кастрычніка 1325 г. адбыўся шлюб гэдымінаўкі Альдоны з каралевічам Казімерам, Уладзіслававым сынам. У наступным годзе ў дапамогу Уладзіславу прыбыў Давыд на чале 1200 конных горадзенскіх вояў. Прысьпелі з дапамогаю Уладзіславу галіцкія й валынскія палкі. Саюзьнікі рушылі ў Брандэнбургію, якая была заплеччам Крыжацкага Ордэну. Паход саюзьнікаў быў удалым. У паваротнай дарозе Давыда ў Горадню здарылася няшчасьце. Мазавецкі вой Андрэй Гост, праўдападобна падкуплены крыжакамі, далучыўся да горадзенскіх аддзелаў. Ён зьнячэўку забіў Давыда дзідай, калі паіў Давыд каня.
/ 44, б.378-380; 48, б.162-166; 50, б. 208-209 /

Уладзімер Пашута каха: "По всей Литве, на Руси и в Польше прославился доблестный воевода городенский Давыд - мужественный защитник Гродно и Пскова, гроза датских, ливонских и прусских крестоносцев".

Хай не зьдзіўляе нас, што пскоўскі летапісец называе Давыда князем. Крыжацкі храніст, сучасьнік Давыда, Пётр Дусбург пісаў: "Давыд горадзенскі быў другой асобай пасьля караля літоўскага Гэдыміна".
/43, б.419; 51, б.228 /

Пячаткі Давыда дагэтуль не адшукалі. Няўжо-ж Гэдымін паўстрымаўся надзяліць зяця Давыда атрыбутамі ўлады ?

Другім баярынам адзначаным пісьмовымі крыніцамі зьяўляецца Вайдыла. Ён паходзіў з беднага роду. Аднак ягоныя здольнасьці заўважыў Альгэрдзі забраў на вялікакняжы двор. Вайдыла спачатку быў наглядчыкам на княжай кухні. Паколькі быў дасьціплым і кемлівым дзяцюком, Альгэрд узяў на сакратара. Функцыя сакратара была ганаровай пасадай, бо сакратар пасылаўся князем з сакрэтнымі даручэньнямі. Значыць, ён стаўся даверанай асобай у князя.

Вайдыла з заданьнем спраўляўся выдатна. Ад Альгэрда атрымаў імунітэтны прывілей на маёнтак ў Дуброўна, і пасаду старасты ў Лідзе.
/ 44 А, б.61; 48А, б.126; 52, б.64; 53, б.85,98,111,133, 155,161,202,224; 54, б.171,405-406,425 /

Пасьля сьмерці Альгэрда, Ягайла прыблізіў да сябе Вайдылу. Яны сталіся сябрамі й шваграмі. Зь сястрой Ягайлы Марыяй Вайдыла ажаніўся ў 1379 г. Жанімства баярына з гэдымінаўкай абурыла кансэрватыўнага Кестуця. Асабліва Кестуця ўзлавала, што яго ніхто не папытаў апініі ў справе замужжа ягонай пляменіцы.
У пісьмовых крыніцах знаходзім весткі, што Вайдыла бунтаваў Ягайлу супраць дзяцькі Кестуця. Калі-б так было на самай справе, то прычынай былі не асабістыя разрахункі, але Вайдыла мог быць у апазыцыі адносна вонкавае палітыкі. Праўдападобна, што Вайдыла прапанаваў замірэньне з крыжакамі, але экспансію з далучэньне ўсходніх княстваў Русі. Кестуць ведаў, што асягнуць замірэньне з крыжакамі можна толькі цаною Жамойці. Стары Кестуць ня мог на гэта згадзіцца.
/ 44 А, б.61; 48А, б.127; 52, б.64; 53, б.85,98,111,133; 55, б.21;

У прынёманскай пушчы каля Давыдзішак адбылося паляваньне ў траўні 1380 г. Прыехалі на паляваньне ўпаўнаважаныя крыжакоў -- вялікі комадор Ульрык Фріцке зь Эльбланга й войт Альбрэхт фон Лухтэнбэрг з Тчэва. У Давыдзішкі прыехаў вялікі князь Ягайла з князямі Вітаўтам і Іванам Альгімундавічам. Баярын Вайдыла таксама прыехаў. Усе зьехаліся на паляваньне быццам прыпадкова.
Крыжацкі храніст Віганд, сучасьнік падзеяў, каха: "чатыры дні зранку палявалі, па абедзе дэбатавалі, пакуль умова ня была гатовай", каб 31 траўня паехаць дамоў.
/56, б.18,19; 57, б.257; 58, н. б.

Умову з Давыдзішак прыпячаталі пячаткамі. Захавалася дзьве пячаткі дрэнай захаванасьці. Адну разчыталі, гэта пячатка Вайдылы. Дасьледчык пячаткі, Багдан Барвінскі, уважае, што рэзчыкам матрыцы быў немец. Ён ня ведаў славянскага альфабэту, дзеля гэтага маем памылкі ў легэндзе. Легэнда чытаецца:"Печать Воидитова".
/59, б.144-145 /

У пачатку лістапада 1381 г. Кестуць зьнянацку захапіў Вільню. Ён знайшоў дакумэнты ўмоваў. Даў Кестуць загад знайсьці Вайдылу, бо яго рабіў адказным за дамоўленасьць з крыжакамі. Калі Вайдылу прывялі да Кестуця, Кестуць загадаў павесіць на Лысай гары ў Вільні "aby był od wszystkich widzian, iż wziął zapłatę rady przewrotnej, a iż się na wysokie miejsce sadził, na wysokiej też szubienicy został ", - так пісаў М. Стрыйкоўскі. Мы думаем, што Вайдыла быў таленавітым баярынам, а таленавітых асобаў не заўсёды любяць князі й іншыя ўладары. Так было ў мінуласьці, так ёсьць у сучаснасьці.
/ 44 А, б.63; 48А, б.128-130; 53, б.85,98,111,133,155,224; 60, б.233,235 /

У студзені 1388 г. Ягайла праз Альгімунта й Барташа запрапаваў Ноўгараду прыняць намесьніка ад Вялікага Княства Літоўскага. Ноўгарадцы згадзіліся і князь Лугвень-Сымон Альгэрдавіч 15 жніўня 1388 г. прыехаў у Ноўгарад. Ноўгарадцы прынялі яго з гонарамі.
/26, б.383; 53, б.30; 55, б.16; 61, б.165; 62,н.10, б.26; 63, н.25-28, б.22-26

Калі ўзьнікло змаганьне Ягайлы зь Вітаўтам, князь маскоўскі Васіль Дзьмітравіч прымусіў Ягайлу Лугвеня забраць з Ноўгараду. Лугвень у пачатку лета 1392 г. прыехаў у Полацк. Дня 4 жніўня 1392 г. Ягайла зь Вітаўтам памірыліся. Вітаўт зьмяніў Скіргайлу-Івана ў Вільні. Скіргайла паехаў у Полацк. Лугвень пераехаў у Мсьціслаў і стаў заснавальнікам дынастыі князёў Мсьціслаўскіх.
/26, б.385; 48А, б.256-258; 53, б.51; 55, б.16; 61, б.182; 63, н.29,б.26-27; 64, б.263,265; 65, б.283-286; 66, б.370 /

Побыт Лугвеня ў Полацку быў кароткі, тры-чатыры месяцы, але ён за гэты час пасьпеў аднавіць на 5 гадоў гандлёвую ўмову Полацка з Рыгаю.
/7, н.17,19, б.64-65, 67-69; 7 Б, б.167-171, 176-177 /

Вітаўт, як внук Гэдыміна, лічыў неабходным мець Полацк. Скіргайлу абурылі амбітныя спакусы Вітаўта. Узьнікла пагроза хатняе вайны, чаго Ягайла ня зычыў. Запрапанавалі Скіргайлу, у замену за Полацк, даць Кіеўскае княства. Скіргайла згадзіўся. Палачане ад Вітаўта атрымалі адумысловы прывілей.
/3, б.216-218; 67, б.141,143-144; 68, б.269, 297-298 /

Паводле А.Харашкевіч, першым намесьнікам у Полацку быў баярын Монтыгірд, якога прыслаў Вітаўт. Я.Вольф і А.Бонецкі ўважаюць, што Монтыгірд атрымаў пасаду полацкага намесьніка ў 1396 г. А.Вонецкі кажа, што Монтыгірд быў намесьнікам да 1400 г., а Я.Вольф акрэсьліў прабываньне Монтыгірда ў Полацку 1415 г., прытым зрабіў заўвагу: "два апошнія лікі / 15 / на дакумэнтах мала чытэльныя".
А. Крупская згадзілася з А.Вонецкім і Я.Вольфам адносна году прыезду Монтыгірда ў Полацк, але ягонае намесьніцтва абмежавала 1409г.
/8, б.136; 69, б.44; 70, б.186,190; 71, б.674 /

М.Грушэўскі пераканаўча даказаў, што Скіргайла атрымаў Кіеў восеньню 1394 г. Значыць, што Монтыгірд прыехаў у Полацк не ў 1396 г., але пры канцы 1394, або напачатку 1395 году, калі ён быў першым намесьнікам Вітаўта ў Полацку.
/72, б.170,473-474 /

Монтыгірд вырашыў пацьвердзіць гандлёвую ўмову Полацка з Рыгаю, якую аднавіў Лугвень. Ён у 1396 г. да пацьвярджальнай умовы прывесіў пячатку, якая зьберaглася ў двух адломках. На адным адломку можна прачытаць "МОН", а на другім маем адну літару " Д ".
/7, н.17, б.64-65; 8, б.134,рыс.4, і б.135, 139-140 /

Монтыгірд меў сыноў Яна й Пятра. Ян удзельнік віленскае ўмовы ў студзені 1401 г. Пётр удзельнік городельскага зьезду ў кастрычніку 1413 г., калі адбылася адаптацыя літоўскага баярства польскімі

шляхоцкімі родамі. Пётр быў адаптаваны шляхцічам Янам Менжыкам да гэрбавога роду Вадвічаў.
/63, н.39,49, б.38,54; 70, б.186-187; 71, б.674-675;
74, б.411-412; 75, б.55-57 /

Віленская ўмова была пацьверджаная 40 пячаткамі, зь іх больш за 30 пячаткаў належала літоўскім баярам. Городэльскі дакумэнт меў 45 пячаткаў, але ў 1570-1580 гады зьбераглося 37 пячаткаў, якія апісаў Ян Замойскі. Усе пячаткі ёсьць пячаткамі літоўскіх баяраў.
/63, н.50, б.55-56; 73, н.53-102, б.23-26; 75, б.55-57;
76, б.39 /

У справе баярскіх пячаткаў У. Сэмковіч пісаў: " у канцы XIV ст. літоўскія баяры пачынаюць карыстацца пячаткамі ". М.Косьман не пагадзіўся з апініяй У. Сэмковіча. Ён уважае, што перад вуніяй Літвы зь Польшчай "пячаткі мелі ня толькі прадстаўнікі пануючае княжае дынастыі, але выдатнейшыя асобы баярства ".
/74, б.413; 77,б.98 /

Спасьцярогі У.Сэмковіча й Косьмана аб зьяўленьні баярскіх пячаткаў ёсьць вельмі важныя, дарма, што яны датуюць іх апошняй цьверцю XIV ст. Нашае заданьне ——— пошукі за пячаткамі ранейшага пэрыяду, або за баярынам які мог мець пячатку.

Мы пісалі, што за панаваньня Гэдыміна зьявіўся баярын Давыд, ён быў горадзенскім старастай і зяцем вялікага князя. Пскоўскі летапісец Давыда называе князем, а крыжацкі храніст Пётр Дусбург кажа, што Давыд быў другой асобай у Літве пасьля Гэдыміна. Цяжка паверыць, каб цесьць Гэдымін сваго зяця Давыда не надзяліў атрыбутамі ўлады, адмовіў Давыду мець і карыстацца пячаткай. Тое, што ягоную пячатку не адшукалі, ня ёсьць дастатковым аргумэнтам адмаўляць Давыду пячатку.

Такім чынам, мы ўважаем, што вытокі баярскіх пячаткаў пачынаюцца з горадзенскага старасты Давыда, г.зн. у першай цьверці XIV стагодзьдзя.

.................

У справе мескіх пячаткаў маем праблемы. Яны зьявіліся даволі позна, бо першапачатна месты былі княжымі рэзыдэнцыямі й князі пячаталі сваімі пячаткамі ўсе дакумэнты. Войны й пажары пазнішчылі мескія архівы; мескія дакумэнты ня мелі тае апекі, якую мелі дакумэнты княжыя. Васковыя пячаткі вымагаюць спэцыяльнае аховы, каб не дэфармаваліся й не нішчыліся, і мескія пячаткі такой аховы ня мелі, якую мелі пячаткі князёў і япіскапаў. Вельмі часта публікатары мескіх дакумэнтаў бачлівай увагі не зьварталі на пячаткі, абміналі й забывалі, што пячаткі могуць паслужыць датуючым сродкам і стацца надзейным сьведкаю аб верагоднасьці публікуемаго дакумэнту. / 78, б.8-11 /

Агульна ўважаецца, што беларускія мескія пячаткі зьявіліся ў выніку наданьня местам прывілеяў на магдэбурскае права. Мы маем засьцярогі, бо зьяўленьне мескіх пячаткаў магло адбыцца зь іншых прычынаў, не зьвязаных з магдэбурскім прывілеям.

Мы просім прабачэньня, што крышку адыйдзем ад тэмы. Колькі разоў мы чыталі пра магдэбурскі прывілей для Вільні. Не так даўна Ю. Ахманьскі паўтарыў: "W I387 r. Wilno otrzymało od Jagiełły pierwszy w W.Ks.Litewskim przywilej na prawo magdeburskie i wkrótce zorganizowało swój samorząd. Na czele samorządu stał wójt, którym został pewnie wymieniony w I397 r. advocatus Wyszko". /79, б.94-95 /

Ягайла ў Мэрачы выдаў дакумэнт 22 сакавіка 1387 г. Гэты дакумэнт паслужыў Ю. Ахманьскаму й іншым замацаваць канцэпцыю, што Вільня была першым местам, якое атрымала прывілей на магдэбурскае права. Мы ў "Дадатках" зьмяшчаем гэты прывілей і прывілей дадзены для Берасьця. Абодва ў арыгінальнай лацінскай мове. Ігнат Даніловіч спрабаваў зрабіць пераклад ў польскую мову прывілею Ягайлы для Вільні.

"Władysław król polski, najwyższy książe litewski i pan dziedziczny Rusi, w nagrodę wiernych usług, które mu okazali obywatele, osadnicy i całe pospólstwo miasta Wilna, dla większej pomyślności i wzrostu rzeczonego miasta, obywatelom tegoż, osadnikom i wszystkiemu pospólstwu, nadaje prawo teutońskie, zwane magdeburskiem, na które obiecuje wydać list pieczęcią wiszącą umocowany, gdy przyjedzie do Krakowa. Lecz mimo to mieszkańcy Wilna, wedle obyczaju, we wszystkich godziwych sprawach, mają ulegać staroście wileńskiemu, który będzie natenczas. Także zamek królewski Wilno, własnym nakładem strzedz powinni, wedle starożytnego obyczaju, dopóki rzeczone miasto ze wszech stron murem nie będzie otoczone, odtąd albowiem mieszczanie od straży zamku wolni zostaną.

Dan w Mereczu nazajutrz po ś. Benedykcie d.22 Marca r.I387 ". /58, н.541, б.267 /

Цяпер супаставім віленскі прывілей з прывілеям берасьцейскім.

" Во імя Божье, амінь. Ку вечной памяті рэчі. Владіслав...... чынім знаменіто сім нашым лістом, нынешнім і напотом будучым, кому будет потреба ведаті. Маючы взгляд ку лепшому порадку і хотечы положенье места нашого Берестейского в мере лепшой поставіті ку посполітому пожытку, с права Руского в право Немецкое Майдеборскае переменяем на вечныя часы, атдаляючы всі інные права: Польскіе і Рускіе і всі інные обычаі, которы былі перво держаны, і право намі даное нагібають і засмучають. Мы также вызволяем і выймуем всіх мешчан і обывателей места нашого Берестейского, Немецкое, Польское і Руское веры і всіх хрістьян от судов, зверхності, моцы і от насіля врадніков панства нашого, от кашталянов, старост, воевод, державец, судей, подсудков і наместніков всякіх, теж от детьскіх. Також о делех великіх і малых, о злодейство, о разліванье крові, о мужобойство, о утінанье члонков, о пожару і о всякіе выступкі мешчане і обывателі позвані мають быті Рускіе, Польскіе і Немецкіе перворечоного места нашого только перед іх войтом, которы на тот час будеть; а войту ставітіся перед его мілостью колі был бы позван через его мілості ліст под печатью і тогды толькі іх правом маеть отповедаті. А в делех вышепісаных далі войту моц, которой маеть войт справы слухаті, суділі, осудіті,

караті в месте Верестейском подлуг права Немецкого Майдеборского во всіх своіх разделах і члонках, держім і ходаем. Мы теж наделяем, даем і прылучаем до места Берестейского 60 фанконскіх ланов, которы мають поделіті і імі наделіті людей подлуг своей волі й жоданя; мелі мы свято святого Мартіна, гойную ласку тады оказалі, уласкавілі всіх, даем есмо сесь прывілей мешчаном і обывателем места нашого на сведотство ласкі нашое, а для лепшего сведомья і большое твердості печать нашую казалі прывесіті. Дан в Кракове на день Воспенья Пречыстое Богородіцы лета Божьего народжeнья 1390, а пры тым былі Спыток воевода с Кракова ...."

Прывілеі былі апублікаваныя: віленскі выданы П. Дубінскім і ў "Собраніе древніх грамот ...", а берасьцейскі ў выданьні М.Доўнар-Запольскага.
/80, н.1, б.1; 81, н.1, б.1-2; 82, н.1, б.1-2 /

Паколькі прывілей берасьцейскі ня меў перакладу з лацінскае мовы, Ян Новогродзкі з Чыкаго зрабіў пераклад у ангельскую мову. Міхась Белямук, аўтар нарысу, спрабаваў перакласьці ў беларускую мову, якой карысталася канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага. Перакладчыкі просяць не дакарацъ за пагрэшнасьці ў перакладах.

Розьніца відавочная паміж прывілеям берасьцейскім, а віленскім. Аўтар капітальнае манаграфіі пра Вільню, Язэп Крашэўскі пісаў: "Wilno otrzymało obietnicę Jagiełły nadania prawa Magdeburskiego, za powrotem jego do Polski. Chociaż nie widać w przywilejach miejskich, aby przyrzeczenia tego dotrzymać miał Jagiełło ". Зьбіральнік дакумэнтаў, Ігнат Даніловіч асьведчыў:"Niewiadomo, czyli wydał Jagiełło za przybyciem do Korony obiecany przywilej na prawo Magdeburskie, przynajmniej nikt o nim niewie do dziś dnia ". І. Яворскі, пасьля пошукаў у віленскіх архівах, зрабіў высноў:" Niema śladu jakiegoś drugiego przywileju króla Władyslawa Jagiełły dla Wilna. Prawdopodobnie go nie było.Niemniej zwięzłość tego pierwszego przywileju stawia nas przed szeregiem niewiadomych... W szczególności uderzającym jest brak wzmianki o wójcie, przy równoczesnym zastrzeniu o dalszym podporządkowaniu mieszczan staroście wileńskiemu ". Ніякіх сьлядоў не знайшоў Ю. Юргініс, каб Вільня атрымала ад Ягайла такі прывілей, які атрымало Берасьце. Ён кажа: "Ягайла объявил о предоставлении г. Вильнюсу магдебурского права. Однако в послании ничего не говорилось о том, как это право будет осуществляться на практике. Можно полагать, что под понятием "магдебурское право" скрывались лишь артикулы судевника Магдебурга, которыми пользовались привилегированые города Польши. Это предположение основано на том, что кн. Жигимонт Кейстутович в 1432г. провозгласил отмену польских, литовских и руских прав, указав, что воевода и другие высшие должностные лица великого князя отстраняются от управления городом.Верховная власть в городе передавалась войту. Следовательно, до этого распоражения городом управлял воевода, а войт, если таковой был, подчинялся ему ". / 83, б.79; 58, б.267; 84, б.300; 85, б.148 /

Пытаньне Берасьця й Вільні ёсьць вельмі важнае. Мы маем прывілей для Берасьця, якога Вільня ня мае. Сьлядоў няма, каб Вільня ад Ягайлы атрымала прывілей. Аднак аўтары манаграфіяў, брашураў, энцыклапэдыяў і іншых эсэ паўтараюць пра тое, што не Берасьце, але Вільня была першым местам у Вялікім Княстве Літоўскім, якое атрымала прывілей на магдэбурскае права. Калі мы маем не праўдзівае насьветленьне што да Берасьця й Вільні, то ўсе іншыя публікацыі аб Вялікім Княстве Літоўскім выклікаюць засьцярогі й патрабуюць праверкі.

Беларускі гісторык, Мікола Ермаловіч у 1976 г. пісаў: "Складальнікі "Хронік" саджалі ў Новагрудку князёў "са Жмудзі", каб прыпісаць ім заслугу стваральнікаў дзяржавы ". Ён у 1982 г. забраў голас і выказаў меркаваньне: "Жемойтские же феодалы, почувствовав свою силу, стали претендовать на первенство в Великом княжестве Литовском и потому стремились приписать себе заслугу его образования. Их идеолог, жмудский епископ Гедройц, многое для этого сделал ".
/86, б.248; 87, б.157 /

Каб не ўносіць "смуты" ў гістарычную навуку, артыкулаў Міколы Ермаловіча перасталі друкаваць.

Чаму мы ня маем ягайлавага прывілею на магдэбурскае права для Вільні ? Чаму Ягайла не датрымаў абяцанага слова, што дасьць прывілей, калі вернецца ў Кракаў ? Каб адказаць на гэтыя й іншыя пытаньні, нам варта зірнуць на асобаў і падзеі ранейшага часу.

Гэдымін 25 студзеня й 26 чэрвеня 1323 г. разаслаў пасланьні да нямецкіх мяшчан. Ён запрашаў і абяцаў пераселенцам зямлю й палёгкі ў гандлю. Мяшчане Рыгі адгукнуліся на заклік Гэдыміна. У Вільні зьявіўся мешчанін Гэніке, які стаў вядомым, як гэдымінавы перакладчык. Ул. Сэмковіч прыпушчае, што ён быў бацькам Ганулявa.
/88, б.28,36; 89, б.6 /

За часоў Альгэрда, у Вільні склаўся на захадняй часцы асяродак замежных мяшчан, які ў дакумэнце Ягайлы ад 22.III.1387 г. названы асадніцкі. Мяшчанству Вялікага Княства Літоўскага хацелася мець адкрытыя й забясьпечаныя гандлёвыя шляхі зь мяшчанствам Цэнтральнае і Заходняе Эўропы. Віленскія мяшчане рэпрэзантавалі зацікаўленасьць мяшчан Смаленска, Віцебска, Полацка, Менска, Наваградка, Горадні й Берасьця. Ім лёс Жамойці мала цікавіў, бо этнічна й рэлігійна не станавіла супольнасьці з тымі "землямі", якія былі заснавальнікамі Вялікага Княства. Баярын Вайдыла заплаціў галавой за парады Ягайлу, каб цаною Жамойці купіць мір з крыжакамі й адчыніць артэрыі Дзьвіны й Нёману для гандлю з Эўропай. На зьмену яму прыйшоў віленскі мешчанін Ганулья.

Калі Кестуць задумаў пакараць узбунтаванага князя Карыбута-Дзьмітра Альгэрдавіча, у Вільні паўстала змова. У "Хроніцы Быхаўца" гаворыцца, што Ягайла "намовіл местычы віленскіі, Ганулеву чадь, і заселі Вілно ". Такая-ж інфармацыя маецца ў

летапісу Супрасьльскім, Слуцкім, Віленскім, Акадэмічным і ў Я. Длугаша.
/48А, б.130; 52, б.142; 53, б.62,68,86,112 /

Мы разважаем, што пад акрэсьленьнем "Ганулявай чадзі" можна разумець мяшчан чужаземнага паходжаньня, асаднікаў, якія з-за адсутнасьцю Кестуця захапілі ўладу ў сталіцы, каб пасадзіць на вялікакняжым пасадзе Ягайлу. Ягайла прыехаў у Вільню 12 чэрвеня 1382г. і пазбавіў Кестуця вялікакняжае ўлады.

Неўзабаве Гануль ад Ягайлы атрымаў доручэньне, пачаць перамовы з крыжакамі. Вынікам перамоў быў зьезд на абтоку рэчкі Дубісы 1-га лістапада 1382г. Дакумэнты выстаўленыя ад імя Ягайлы й Скіргайлы, але за сьведкаў упісаныя браты Ягайлы — Лутвень, Карыбут, Карыгайла, Сьвідрыгайла й Вігунт. У гэтай княжай грамадзе сьведкаў знаходзіцца Гануль, які адзін раз запісаны: "Hannike, burger zcur Wilne", а другі раз " Hancke,burger zcur Wilne".

Значыць, што Гануль у лістападзе 1382г. ня быў "намесьнікам", але, як даверaная асоба й сакратар Ягайлы,прысутнічаў і быў за сьведку "мешчанін віленскі".
/60, б.223; 89, б.8; 90, б.41; 91, б.150; 92, б.57,60 /

Дня 18 студзеня 1385 г. у Кракаў прыехала пасольства ад Ягайлы, на чале яго былі князі Скіргайла й Альгімунт-Барыс. Стараста віленскі Гануль таксама фігуруе на чале пасольства. Ён зь князем Барысом едуць далей, да каралевы Альжбеты, маткі Ядзьвігі.

М. Косьман мае слушнасьць, што мешчаніну ў тыя часы прабрацца на становішча старасты, сакратара, пасла, дыпляматы й быць княжым дарадьнікам было вельмі цяжка, амаль немагчымым. Вакол Ягайлы стаялі браты родныя, стрыечныя й масьцістае баярства.

Мы прыпушчаем, што Ягайла пасылаючы пасольства ў Кракаў вырашыў Ганулья зрабіць віленскім старастай, каб меў лепшы аўтарытэт і пашану. Такім чынам, становішча віленскага старасты Гануль атрымаў у сьнежані 1384 г.
/48А, б.188-192; 60, б.221-224; 69, б.71; 91, б.150,151 /

Пасьля кракаўскіх цэрэмоніяў, Ягайла прыехаў у Вільню, каб ня хрышчаных хрысьціць у лацінскі абрад. Гэтага было мала. Ягайла пачаў выдаваць прывілеі. Адзін з гэтых прывілеяў, выдадзены 22 лютага 1387 году часткава зацытуем.

"W imie Pańskie, stań się. Ku wiecznej rzeczy pamiątce. Ponieważ wówczas przezornie zabiegamy licznym szkodom z błędów i wątpliwości wynikającym, gdy sprawy naszego wieku pismem i wymienieniem świadków utrwalamy, przeto my Władysław... łaską Ducha ś.oświeceni, błędy pogańskie opuściwszy, wiarę święto pobożnie przyjęliśmy i zdrojem chrztu zostaliśmy odrodzeni; chcąc w krajach naszych litewskich i ruskich też wiarę katolicką pomnożyć, za zgodą i zezwoleniem braci naszych najmilszych, książąt i wszystkiej szlachty ziemi litewskiej, postanowiliśmy, rozkazaliśmy a nawet ślubowaliśmy, zaręczyliśmy i przez dotknięcie świętych tajemnic przysięgliśmy, wszystkich rodowitych Litwinów płci obojej, wszelkiego stanu, powołania lub stopnia w państwach naszych litewskich i rus-

kich zamieszkałych, do wiary katolickiej i posłuszeństwa ś.rzymskiemu kościołowi skłonić, pociągnąć, przyzwać a nawet zniewolić, do jakiegokolwiekby wyznania należeli. Aby zaś w żaden sposób, nowonawróceni do wiary katolickiej Litwini, od posłuszeństwa i obrządku kościoła rzymskiego odcągani nie byli, pragnąc wszystkie bez wyjątku przeszkody, tamujące wzrost wiary katolickiej uprzątnąć, surowo zakazujemy: aby nikt z Litwinów obojej płci z Rusinami podobnież płci obojej,związków małżeńskich nie zawierał, jeśliby wprzódy nie przyjął rzeczywistego posłuszeństwa rzymskiemu kościołowi. Wszakże gdyby mimo ten nasz zakaz zdarzyło się: że którykolwiek, lub którakolwiek z wyznawców obrządku ruskiego, wstąpiliby w stan małżeński,w takim razie rozłączanemi być nie mają, lecz bądz mąż, będz żona tego wyznania, iść powinni w wierze za katolikiem lub katoliczką, wyznającemi posłuszeństwo kościołowi rzymskiemu i wiernie trwać przy nim, do czego nawet karami cielesnemi zniewalani być mogą. Jeżeli bowiem w pierwotnych czasach, z dopuszczenia Bożego, źli mieli dobrych ku złemu przymuszać, tem bardziej teraz z wyroków Bozkich, dobrzy mogą i powinni złych do dobrego skłaniać i wzywać.... Działo się w Wilnie w piątek po dniu popielcowym I387 roku, w obecności...."
/93, б.75-77 /

Я.Крашэўскі й П.Бацюшкаў згодныя, што да сьмерці Альгэрда ў Вільні было 3 мураваныя царквы й адна дубовая. Быў у Вільні й праваслаўны манастыр. П. Бацюшкаў называе гады пабудовы цэркваў. Найстарэйшай была царква Міколы, дрэўляная, пабуданая за Гэдыміна, за Альгэрда,жонкай Юльянай змураваная. Пятніцкая царква або сьв. Параскевы за Гэдыміна пабудаваная, дрэўляная, жонкай Альгэрда Марыяй у 1345 г. змураваная. Прачысьценская царква змураваная Альгэрдам і пасьвячаная ў 1348 г. яп. уладзімерскім Аляксеям. Яе муравалі кіеўскія дойліды. Троіцкая царква пабудаваная Юльянай, жонкай Альгэрда ў 1347г. з дубовых калодаў. Вострабрамская ікона Божай Мацеры мае паданьне, што Альгэрд яе прывёз з Корсуня для Юльяны. Яна пабудавала царкву-капліччку, каб людзі прыходзілі й маліліся.

Я.Крашэўскі кажа: "Gdy Jagiełło wniósł do Litwy całej światło chrześcijańskiej wiary, prawie połowę miasta Wilna znalazł już wprzód na grecki obrządek ochrzczoną, dowodem tego, prócz wyraźnych słów jednej Kroniki, są jego przywileje, w których zakazuje związków z wiary odmiennej ".

Становўча выказаўся Т.Трайдос:"Zdecydowana i konsekwentna dyskryminacja prawna prawosławnych i przymus katolicyzacji obowiązujący na Litwie, wyrażony najpełniej w przywilejach wileńskich Jagiełły /I387 r./, a potwierdzony w Horodle."
/83, б.79; 83А, б.43; 94, б.85,87,89,95,97; 95, б.27 /

Зьмест прывілеяў стаў ведамы віленскім праваслаўным мяшчанам. Ці былі яны раўнадушныя да таго, што іхная вера ставіцца на ганебнае месца ? Сумніваў няма, што іх занепакоілі новыя парадкі й дыскрымінацыя грэцкага абраду. Яны пачалі разглядацца й шукаць адказных за дзейнасьць вялікага князя Ягайлы.

Падзеі 1382 году абудзіліся ў памяці віленскіх мяшчан. Успомнілі,што Ганула быў лідэрам змовы. Успомнілі, што ён завёў перамовы з малапольскімі панамі й езьдзіў у Кракаў. Мяшчане добра ведалі, што Ганула ёсьць даверчная асоба, дараднік і сябра Ягайлы. Ён сакратар і мудрагель на вялікакняжым двары. Ён узбаламуціў вялікага князя.

Ганула і Ягайла сачылі за Вітаўтам. Ад Вітаўта дзядзічныя Трокі забралі, ён ня іхнае веры, не надзейная асоба, сьмерць бацькі не забыў і вінавайцаў шукае. Ганула і Ягайла ведалі пра настрой віленскіх мяшчанаў і непакоіла іх папярэдняя змова мяшчан супраць Кестуця. Гэтым разам можа быць змова мяшчан рускае веры супраць Ягайлы. Пастанавілі суцішыць гамонку мяшчан праз прывілей на магдэбурскае права.

Асновай магдэбурскага права было наданьне месту самаўраду, на чале якога стаяў войт. Войта прызначаў князь, але пасада войта была дзядзічнай, аўтаматычна пераходзіла ад бацькі да сына. Новы войт паклікаўся князем, калі мужчынская лінія войтаў вымірала. Становішча войта - кажа Ю. Бардах - "cechowała duża samodzielność zarówno wobec miasta, jak i pana, którego interesy wójt powinen był reprezentować. Był on w istocie rzeczy sam panem feudalnym. Wójtowie rekrutowali się przede wszystkim spośród patrycjatu miejskiego ".
/96, б.212 /

Віленскі "патрыцыят" складаўся ў аснаўным з трох групаў. Першай, найболшай, аседлай ад заснаваньня места, былі месьцічы рускае веры, якая дыскрымінуецца выданым прывілеям ад 22-га лютага. Другой групай былі аўкштотцы й жамойцы, але іх пад прымусам з паганаў у каталіцтва хрысьцілі. Ягайла ня меў пэўнасьці, ці на першы кліч Вітаўта не адклікнуцца новаахрышчаныя. Трэцяй групай былі асаднікі нямецкага паходжаньня, пераважна пераселенцы з Рыгі. Прадстаўніком гэтае групы быў Ганула.

Ягайла, прыпушчаем, разважаў, што віленскім войтам павінна быць асоба праверанная, надзейная й адданая яму. Такой асобай быў Ганула.

Ганула, праўдападобна, разважаў, што пасада віленскага старасты ня ёсьць гарантаваная. Ягайла паедзе ў Кракаў, застанецца ў Літве Скіргайла й ня выключаным, што запрапануе Ганулю замену на іншае староства, на якое не зіркаюць ласым вокам княжычы й масьцістыя баяры. Атрымаць прызначэньне на віленскага войта, стаць маленькім фэўдалам, мець загварантаваную пасаду сабе й сынам ——— спаўненьне ягоных камбінацыяў.

Мы ня ведаем, як праходзілі перамовы ў справе войта. Аднак кідаецца ў вочы, што ад 22 лютага да 22 сакавіка даволі вялікая прорва ў часе. Мы прыпушчаем, што віленскія мяшчане запратэставалі што да кандыдатуры Ганулі на войта. Ягайла не пагаджаўся намінаваць іншую асобу на войта. Ён пакінуў Вільню, але, каб расчапіць апазыцыю мяшчан, выдае ў Мэрачы дакумэнт

у каторым гаворыцца, што "мяшчане будуць далей падлягаць віленскаму старасьце", а віленскім старастай быў Ганўль. Гэта азначала, калі ня хочаце, каб Ганўль быў войтам і судзіў мяшчан паводля магдэбурскага кодэксу, то Ганўль, як віленскі стараста, будзе судзіць мяшчан законамі абычаёвага й княжага права.

Дня 1 чэрвеня 1387 г. Ягайла выдаў фундацыйны дакумэнт для касьцёла ў Обальцах /Сенненскі р-н, Віцебскай вобл./. У дакумэнце гаворыцца, што стараста віленскі Андрэй Гаштаўт паклікаецца за сьведку. Атрымоўваецца, што разьлікі Ганўля й Ягайлы далі адваротныя вынікі. Ягайла быў прымушаны зьняць Ганўля з старасты, а прызначыць на пасаду старасты Гаштаўта.
В. Мацееўская падае цікавую даведку, што Ганўль "związany wieloletnią współpracą ze Skirgiełłą, może w jego otoczeniu, udał się do Połocka, który Skirgiełłą objął w zarząd wiosną I387 r."

Дакумэнт наданьня Ягайлам Полацка Скіргайлу мае дату 28 красавіка 1387 г. Значыць, што Ганўль выехаў у Полацк не раней даты наданьня Полацку Скіргайле.
/58, н.542,544, б.266-269; 97, н.2, б.3-4; 98, б.284 /

Дня 4 жнівеня 1392 г. Вітаўт зь Ягайлам паміраліся. Вітаўт ад Ягайлы атрымаў паўнамоцтвы адміністратара Вялікім Княствам Літоўскім. Ганўль, відаць, затрывожыўся, што Вітаўт зьменіў Скіргайлу й вырашыў пакінуць Полацк і пераехаць у Кракаў пад апеку Ягайлы. Ягайла Ганўлю надае шляхоцтва. Ганўль застаецца ў Кракаве й памірае паміж 1417, а 1421 гадамі.
/89, б.13-17 /

Пазбаўленьне Ганўля пасады віленскага старасты ня сьведчыць, што ён трапіў Ягайле ў няласку. Калі-б быў ён у няласцы, не атрымаў-бы шляхоцтва. Зьмена старастаў азначае, што абурэньне мяшчан стварала загрозу бунту. Мяшчане ня зычылі моць Ганўля войтам, а Ягайла не хацеў паказаць слабасьць манарха й прызначыць на войта асобу, якую прапанавалі мяшчане. Вось чаму, на нашую думку, віленскія мяшчане не атрымалі таго прывілею на магдэбурскае права, які атрымалі берасьцейскія мяшчане.

Мы прыпушчаем, віленскія мяшчане, хаця не атрымалі фармальнага магдэбурскага прывілею, які атрымалі мяшчане берасьцейскія, але вільняне станоўча патрабавалі правоў на самакіраваньне. Ю. Ахманьскі кажа, што ў Вільні быў войт Вышко ў 1397 годзе. Нястача магдэбурскага прывілею, але наяўнасьць войта,—сьведчаць аб змаганьні мяшчан з княжай уладай і выніках змаганьня. Аднак, атажсамліваць значаньне войта віленскага зь войтам берасьцейскім нельга, бо войт берасьцейскі зьявіўся дзякуючы прывілею 1390 году, чаго мы ня маем для Вільні. Вільняе шляхам змаганьня з манархам паставілі войта й манарх пагадзіўся з фактам, а калі гэта сталася застаецца загадкай. Якую моц меў віленскі войт, мы таксама ня ведаем. Мы ведаем, што ў мэрычанскім дакумэнце ад 22 сакавіка 1387 г. гаварылася, што віленскія мяшчане застаюцца пад уладай княжага старасты, а берасьцейскія мяшчане ў 1390г. былі вынятыя з пад улады княжых старастаў і судзяў.
Значыць, не Вільня, але Берасьце было першым местам у Вялікім Княстве Літоўскім якое атрымало прывілей магдэбурскага права.

У архівах Гданска й Кёнігсбэрга знаходзіліся дакумэнты места Вільні за 1538 - 1567 гг. Да дакумэнтаў была прымацаваная пячатка дыямэтрам у 50 мм. Пячатка мела сюжэт: сьв. Крыштафор пераносіць юнака Хрыста праз рэчку. Пячатка мае легэнду: "S. CONSULUM CIVITATIS WILENSIUM " /Пячатка мескае рады Вільні/. /99, таб.XXXIX, н.495 /

Сфрагістыя Ф.Пекосіньскі й М.Гумоўскі ўважалі, што пячатка /матрыца/ паходзіць з канца XIV ст. Іхнае датаваньне пячаткі абасноўвалася на даце мэрачанскага дакумэнта данага Ягайлам для Вільні й на стылі пячаткі.
/84, б.301, зн.2;    99, б.239 /

Мы сумняваемся, каб пячатка /матрыца/ паходзіла з канца XIV ст. Легенда пячаткі пярэчыць такому датаваньню. М.Гумоўскі прызнае яе, што: "napis w otoku mówi, że jest to pieczęć radziecka /consulum /. /99, б.239 /

У мэрачанскім дакумэнце ад 22 сакавіка 1387 г. няма згадкі пра войта. Мы выказалі свае спасьцярогі й прыпушчэньні ў справе Ганулля. Аднак, калі мяшчане Берасьця атрымалі магдэбурскі прывілей, віленскія мяшчане падволі нацiск на манарха Ягайлу. Праўдападобна яны абралі сабе войта й запатрабавалі, каб войт быў прысутным на судзе й бараніў мяшчан перад старастай. Сытуацыя была спрыяльная мяшчанам; паміж Ягайлам і Вітаўтам ішло збройнае змаганьне й Ягайла быў прымушаны пагадзіцца з самаволяй мяшчан.

Жыгімонт Кестуціч выдаў магдэбурскі прывілей для Вільні, бо стаяў перад фактам дакананым, але ў ягоным прывілею няма згадкі пра зацьверджаньне мескае рады. Прыпушчаем, што Вільня яшчэ мескае рады ня мела. Меская рада паўстала пасьля 1432 г.

Такім чынам, віленская пячатка мескае рады паходзіць з сярэдзіны або з другой паловы XV ст.

Калі пагодзімся, што віленскія мяшчане ўпарта змагаліся за самакіраваньне й дзякуючы змаганьню зьявіўся войт у Вільні, то войт павінен быў мець пячатку. Ф.Пекасіньскі быў знаўцам сярэднявяковых пячаткаў. Ягоная заўвага пра стыль пячаткі прымушае прызадумацца. Ён паводля стылю аднёс пячатку мескае рады да XIV ст. Прыпусьцім, што ён не памыліўся. У такім выпадку пячатка віленскага войта паслужыла ўзорам, сталася прататыпам для выкананьня віленскае пячаткі мескае рады.

Ягайла ў Кракаве 15 жнівеня 1390 г. выдаў дакумэнт для мяшчан Берасьця. Гэта быў прывілей на магдэбурскае права. Адпаведна зьместу прывілея, берасьцейскі войт стаўся рэпрэзантантам і судзёю берасьцейскіх мяшчан. Яму, належна да займанай пасады, прыслугоўвала мець пячатку, каб надаць правамоцнасьць берасьцейскім мескім дакумэнтам. Пячатка войта была ня толькі ягонай асабістай пячаткаю, але пячаткаю места Берасьця. Зьяўленьне войтаўскай пячаткі можна дадатаваць 1390 годам. Яна, на жаль, не зьберагласся.

У берасьцейскім прывілеі дадзеным Ягайлам нічога не гаворыцца пра мескую раду. Вітаўт пацьвердзіў ягайлаўскі прывілей для Берасьця 25 студзеня 1408 г., але меская рада не ўспамінаецца. Іво Яворскі зрабіў выснаў:"Drogą ewolucyjną... zdobyli się mieszczanie brzescy na wyłonienie rady miejskiej. Dowiadujemy się o tem z trzeciego z koleji przywileju, jaki Brześć otrzymał, a mianowicie z przywileju wydanego przez wielkiego księcia Kazimierza w Trokach 22 lipca I440 r. Wymieniony jest tam wójt nie sam, ale "cum consulibus". Z tekstu przywileju wynika jasno, że chodzi tu o urzędników miejskich już funkcjonujących , a nie, jak twierdzi W. Drużcyc, o ustanowienie rady miejskiej dopiero przez przywilej... O wiele prostszem wydaje się nam tłumaczenie, że chodzi tu o organ, już poprzednio istniejący... Radę miejską wyłoniło miasto samo z siebie, a władza wielko-książęca zachowywała się wobec tej ewolucji biernie, a w najbliższym przywileju liczyła się z tym faktem, jako z dokonanym... Następny przywilej wydany został dla Brześcia przez króla i wielkiego księcia Aleksandra w Brześciu, a więc z okazji bytności monarchy w mieście, I5 marca I505 r. Zawiera on jeden tylko szczegół ciekawy, a mianowicie wymienienie obok wójta, także i burmistrza i radców ".
/84, б.328-329 /

Дазволім згадзіцца зь І.Яворскім, што берасьцейская меская рада ня ёсьць прадуктам прывілею 1440 г., але фактам дакананым працэсу, які манарха прызнаў і зацьвердзіў у Троках 22 ліпеня. У прывілеі Вітаўта ад 25 студзеня 1408 г. ня было згадкі пра мескую раду. Выглядае, што меская рада зьявілася паміж 1408, а 1440гг. Але, за панаваньня Вітаўта /1392-1430гг./ іводнае места не атрымала прывілею на магдэбурскае права, калі вылучыць пацьвярджальныя прывілеі.
/100, б.491/

Так як Вітаўт ня зычыў надаваць местам магдэбурскае права, ён напэўна сьцярог, каб мяшчане самавольна не інтэрпрэтавалі параграфаў атрыманых прывілеяў на магдэбурскае права. Пасьля ягонае сьмерці, калі пачалося змаганьне паміж Сьвідрыгайлам і Жыгімонтам, тады мяшчане змаглі самавольна паклікаць мескую раду. Казімер прымушаны быў прызнаць мескую раду як факт дакананы, і зацьвердзіць яе прывілеям.

Астаецца загадкай, ці меская рада перад 1440 г. мела пячатку ? Калі яна пячаткі ня мела, то пачыная з 1440 г. меская рада пячатку зрабіла, каб пячатаць і надаць верагоднасьць і правамоцнасьць мескім дакумэнтам.

Геральдыка й сфрагістыка ёсьць сястронкамі блізьнятамі. Геральдычныя фігуры знаходзяцца на пячатках або наадварот. Найстарэйшы вядомы малюнак берасьцейскага гэрбу паходзіць з 1554 г. Берасьцейскі гэрб мае на чырвоным полі вежу на сутоках дзьвух рэк. Найстарэйшая пячатка Берасьця, якая захавалася пры дакумэнце з 1592 г., падобная да малюнка з 1554г. У цэнтральным полі пячаткі маем вежу на сутоках дзьвух рэк. Па пэрымэтру пячаткі легенда. Нажаль, літары легенды здэфармаваліся, нельга расчытаць, што на ёй напісана.

/101, б.14-15 /

Каля 1650 г. мяшчане Берасьця зьмянілі сваю гэрбавую фігуру. Дакумэнт з 1650 г. мае даволі добра захаваную пячатку, на якой замест вежы зьмясьцілі на шчыце стралу накіраваную ўверх у нацягнутым луку. Над шчытом паклалі эмблему, якую прынята называць "калюмнамі" або "брамай Гэдыміна". Па пэрымэтру пячаткі легэнда, якую зь цяжкасьцямі, але расчытаць можна.
"SIGIL /lum/ CONSUL /um/ BR /esten/ SI M.D.LITV".
/101, б.14-15 /

Цяпер сумніўнасьць зьнікае. Пячатка з 1650 г. ёсьць пячаткаю менскае рады. Праўдападобна папярэдняя пячатка таксама была пячаткаю мескае рады. Не трацьма надзеі, што ў архівах аднойдуць пячатку з чытэльнай легэндай.

Мы зарызыкуем зрабіць вывад адносна берасьцейскіх пячаткаў. Калі прывілей атрымалі ў 1390 г., берасьцейскі войт пачаў карыстацца пячаткай. Войтаўская пячатка была адначасна меской пячаткаю. Калі Казімер прывілеям у 1440 г. зацьвердзіў мескую раду, меская рада замовіла пячатку. На пячатцы зьмясьцілі шчыт, на шчыт паклалі вежу. Эмблема гэтая была на працягу 200 гадоў гэрбам места Берасьця, а пячатка мескае рады -- пячаткаю места Берасьця.

Законы гэральдыкі не дазваляюць ужываць аднолькавыя фігуры розным местамі. У Вялікім Княстве Літоўскім каля 1650 году амаль кожнае места й большыня мястэчкаў мелі прывілеі на магдэбурскае права. Праўдападобна, што на меских пячатках зьявіліся аднолькавыя фігуры, у нашым выпадку, вежа магла быць эмблемай колькі местаў. Берасьцейскія мяшчане пастанавілі ўзяць сабе за эмблему іншую гэральдычную фігуру —стралу накіраваную ўверх у нацягнутым луку.

У Каралеўстве Польскам было места з падобнай назвай /Brześć kujawski /, каб ня было блытаніны, мяшчане Берасьця на пячатцы напісалі: "Пячатка мескае рады Берасьця, Вялікага Княства Літоўскага ".

У Троках 7 кастрычніка 1498 г. Аляксандар выдаў для Полацка прывілей на магдэбурскае права. У прывілеі гаварылася, што ў Полацку мае быць войт, 2 бурмістры й 20 радцаў.
/ 7А, н.226, б.156-157; 102, н.116, б.265 /

Ці атрыманьне прывілею азначала, што палачане атрымалі права мець меския пячаткі ? Каб адказаць на пытаньне, неабходна прыпомніць полацкага намесьніка Монтыгірда. Ён у 1396г. пацьвердзіў умову Полацка з Рыгаю й сваю пячатку прывесіў да дакумэнту.

Мы ўспаміналі, што ў Смаленску да ўмовы прывесілі пячаткі князь Глеб Расьціславіч і япіскап Парфіры ў 1284 г. Падобную практыку маем у Полацку. Князь Глеб і япіскап Рыгор прывесілі пячаткі да ўмовы Полацка з Рыгаю ў 1338/1341 г. Вось-жа, да пацьвярджальнай умовы ў 1396 г. прывесілі дзьве пячаткі. Адна пячатка была баярына Монтыгірда. Другая пячатка дыямэтрам у

30 мм.,выціснутая ў жоўтым воску, зьберагіася ў вялікім адломку, на якім відаць, што легэнда займала ўсё поле пячаткі. Захавалася чатыры радкі. "ПЄЧ / ПОЛ / КАЯ /є С /

Першыя тры радкі можна прачытаць, як "Пячатка Полацкая..." Значыць, што ў Полацку адбыліся зьмены.

У Рызе, у архіве знаходзіцца дакумэнт ад 7 лістапада 1404г. На пэргамэнце напісана: "Мы полочане даем вам ведомо ..." Да дакумэнту прывешаная пячатка выціснутая ў жоўтым воску. Легэнда займае ўсё поле пячаткі й мае пяць радкоў, напісана:

" ПЄЧА /ТЬ ПОЛО /ЧЬКАЯ И/ СТОЄ СО/ФЬИ "

/ 7,н.17,б.65 і н.33,б.92; 7Б,б.191-192; 8, н.4,11, б.134 /

Адносна полацкай мескай пячаткі, А.Харашкевіч каже: "Полоцкая городская печать появилась только в конце XIУ в. в связи с коренным изменением управления городом. Именно при литовских великокняжеских наместниках появилась нужда в особой городской печати, скрепляющей документы, созданые в городской же канцелярии, независимой от великокняжеского наместничьего управления. Создался дуализм в управлении городом: с одной стороны городское управление -- Полоцк и св. София, с другой -- великокняжеский наместник. Вплоть до середины ХУ в. они действовали совместно ".
/ 8, б.140 /

Мы толькі частката згаджаемся з А.Харашкевіч. Тое што ў Полацку існаваў "дуалізм", мы пагаджаемся, але пачаткі "дуалізму" старэйшыя, як уважае А.Харашкевіч. Дуалізм зьявіўся да прыезду Монтыгірда ў Полацк у 1394/1395 г.

Да ўмовы Полацка з Рыгаю ў 1338/1341 г. пячаткі прывесілі князь Глеб і япіскап полацкі Рыгор. Адсюль узьнікае пытаньне, каго яны рэпрэзантавалі ? Нашае меркаваньне, што князь Глеб рэпрэзантаваў вялікага князя й сьцярог у Полацку інтэрас Вялікага Княства Літоўскага. Япіскап Рыгор быў прадстаўніком палачанаў і рэпрэзантаваў інтэрас "Полацкай зямлі". Значыць "дуалізм" зьява не канца XIV ст., але значна старэйшая. Дзякуючы пячаткам, мы ведаем, што дуалізм існаваў ужо ў 1338 годзе.

Што да полацкіх япіскапаў, А.Харашкевіч каже: "В ХУ в. весьма скромная роль во внутренней жизни города принадлежала полоцкому владыке. Если в начале XIУ в. он активно участвовал во внешнеполитической жизни города и вступал в переговоры с Ригой по важнейшим вопросам полоцко-литовских взаимоотношений и наравне с князем скреплял своей печатью полоцко-рижский договор I338 г., то в конце XIУ - начала ХУ в. с потерей Полоцком независимости его роль стала более чем скромной ".
/ 8, б.141 /

Чаму значэньне полацкага ўладыкі занапала? Паколькі А. Харашкевіч не дала выясьненя, мы спрабуем у агульных зарысах паказаць прычыны, чаму полацкі ўладыка перастаў быць прадстаўніком палачанаў і палітычнай фігурай.

У 1362 г. памёр літоўскі мітрапаліт Раман. Патрыярх Каліст адмовіўся паставіць для Вялікага Княства Літоўскага мітрапаліта на месца Рамана. Літоўская мітраполія сталася вакантнай. Паколькі ў Маскве знаходзіўся Аляксей з тытулам мітрапаліта ўсяе Русі, літоўская мітраполія апынулася пад ягонай адміністрацыяй. Узьнікла праблема, бо 13.XI.1359 г. памёр маскоўскі вялікі князь Іван Іванавіч, а сыну ягонаму Дзьмітру /Данскому/ у тым часе было 9 год і апеку над Дзьмітром пераняў мітрапаліт Аляксей. Гэта азначала, што мітрапаліт стаў рэгентам маскоўскае дзяржавы. У 1362 і 1363 гг. Дзьмітры атрымаў ханскія ярлыкі на княства Уладзімерскае, а гэта азначала, што Дзьмітры стаў зьверхнікам усяе ўсходняе Русі. Пісьмовыя крыніцы замаўчываюць, хто пастараўся, каб 12 гадовы хлопчык атрымаў ярлыкі. Мы не сумняваемся, што пастараўся мітрапаліт Аляксей. Некаторыя князі ня зычылі падпарадкавацца хлопчыку й мітрапаліт у збунтаваных княствах загадаў пазамыкаць цэрквы.
/ 24, б.2; 103, б.171,185; 104, таб.23; 105, б.267,268 /

Калі незначных князёў мітрапаліт прымусіў прызнаць Дзьмітра сваім зьверхнікам, прышла чарга на князя цьверскога Міхала Александравіча, які быў цесьцям Альгэрда, таму пабаіваліся яго чапаць, але ў 1367/1368 г. "Дмитрей Иванович... с отцем своим пресвященным Алексеем митрополитом Киевским и всея Руси,зазваша любовию к себе на Москву князя Михаила Александровича Тверскаго, и потом его изымали; а что были бояре его около его, тех всех поимали и разно развели... и держаша их в истомлении велице... Князь же Михайло Александрович Тверский о том велми сжалися, и не любезно бысть ему сие, и негодоваше о сем... и жаловашеся на митрополита, глаголя: "кому любовь и веру имех паче всех к митрополиту сему, и он токмо мя посрами и поруга !".
/ 18 Б, б.10 /

Князю цьверскому пашчасьціла выбрацца з Масквы, дзякуючы прыезду татарскіх князёў Карача, Айдара й Цюкеша. Князь Міхал усьведамляў, што яго не пакінуць у супакоі. Ён паехаў да зяця Альгэрда прасіць дапамогі. Маскоўскія войскі зьявіліся ў цьверскім княстве, спустошылі край, але сталіцы Цьверы ўзяць ня здолелі. "Тоя же осени князь великий Ольгерд Гедимановичь събра воиньства много и подвижеся ратью к Москве на великого князя Дмитреа Ивановича... Олгерд же стоял около града Москвы три дня, града не взя, а зла много сотвори, пожже и поплени людей безчислено, и в полон поведе, и скотину всю с собою отогнаша. Се же все бысть грех ради наших, а преже сего таково зло не бывало Москве от Литвы; аще и от татар много зла бывало, но от Литвы едино се зло сотворися, и то окаано и всегубително. От Федорочюковы рати до Олгердовы лет 4I ".
/18Б, б.11 /

Храніст літоўскі запісаў, што Альгэрд адязджаючы з пад Масквы "вшедшы сам на конь і копіё вземшы в руку, і прыехавшы ко городу копіе свое к стены прыслоніл, едучы назад рэкл так велікім голосом: "Княже велікі московскі. Паметай то, што копіё літовское стояло под Москвою ".
/ 52, б.140 /

У паходзе Альгэрда на Маскву прымаў удзел ня толькі князь Міхал цьверскі, але Сьвятаслаў смаленскі й іншыя князі. Неспадзяванае зьяўленьне Альгэрда і ягоная пагроза,пастаўленьнем дзіды ля маскоўскае сьцяны,напалохала Дзьмітра й мітрапаліта Аляксея. Летапісы замаўчываюць рэакцыю мітрапаліта, але дзьве патрыяршыя граматы сьведчаць аб дзейнасьці мітрапаліта. Адну грамату мы поўнасьцю зацытуем, а другую залучаем у "Дадатках".

"Благороднейший великий князь смоленский, киръ Святослав. Мерность наша узнала, что ты согласился и заключил договор с великим князем всея Руси, киръ Дмитрием, обязавшись страшными клятвами и целованием честнаго и животворящаго креста, в том, чтобы тебе ополчиться на врагов нашей веры и креста, поклоняющихся огню и верующим в него. И великий князь, как условился и договорился с тобою, был готов и ожидал тебя; но ты не только не сделал, как обещался и клялся, но преступив клятвы, договор, обещание и крестное целование, ополчился вместе с Олгердом против христиан, и многие из них были убиты и разорены, за это преосвященный митрополит киевский и всея Руси, во Святом Духе возлюбленный брат и сослужитель нашей мерности, отлучил тебя от церкви -- и сделал хороше и правильно: ибо тех, кто так делает, т.е. преступает свои клятвы, обещания и крестное целование, как бы не было Бога, судящаго в правду и наказующаго преступников, следует подвергать такому наказанию и запрещению. Итак хорошо сделал митрополит, что отлучил тебя: ибо ты совершил тяжкий грех против своей веры и своего христианства: поэтому и мерность наша имеет тебя отлученным за то злое деяние, и ты тогда только можеш получить от нас прощение, когда сознаешь, какое сделал зло, обратишься к своему митрополиту, прося у него прощения и когда митрополит напишет об этом сюда к нашей мерности. Знай же, что отлучение удаляет и совершенно отчуждает человека от святой Божией церкви, и умершое тело его, человека отлученнаго, остается неразрушимым во обличение его злаго деяния. Итак позаботься и попекись, чтобы искренно раскаиться и сознать свое прегрешение; и когда ты, вместе с митрополитом, напишеш сюда и будешь просить прощения, тогда и от нашей мерности получишь прощение и разрешение от греха и удостоишься молитв и похвал; тогда и Бог простит тебя, в чем ты совершил пред Ним, и будет твоим помощником в княжении и во всей жизни ". Грамата напісана ў чэрвені 1370 г.
/ 106, б.122-124 /

Паводле мітрапаліта Аляксея, якога падтрымаў патрыярх Філатэй, тыя князі, якія маюць сувязь і падтрымоўвуюць Альгэрда, падлягаюць адлучэньню ад царквы. Мы залучаем ханскі ярлык па які езьдзіў у лістападзе 1357 г. мітрапаліт Аляксей у Арду й прыабяцаў татарскаму хану Бердыбэку.

"Бесмертнаго Бога силою и величьством из дед и прадед Бердебеково слово... Ченгизъ царь и последнии цари наши,отци наши и за тех молилися молебники и весь чин поповьскыи... Тако молъвя, ярлыки подавали. И кто ни будеть, вси уведав ярлыки подавали. И нынечя мы пръвых царей ярлыки не изнынsocивая, одумав, по тому же есмы Алексия митрополита пожаловали. И как сед въ Влодимери богу молиться за нас и за племя наше молитву творит. Так есмы молъвили -- и кая дань ни будеть или пошлина, не емлют у них... Или

что церковнии домове, земли и воды, огороди, винограды, мелници, -- и то у них не емлют, ни силы над ними не творять никакые... А ты, Алексеи, митрополит и весь ваш поповьскыи чин възмолвить, что сяк пожаловани есмы да церковным домом, землям, водам, огородом, виноградом... ино то на тобе. Или кто разбоем, татбою, лжею... ино то сам ведаешь, каково о том исправление учинишь. А о нас к Богу молитву твори, занеже ты прkже, а мы потом не млъвим ничего.

Так рекши, баису да ярлык с белою тамгою дали на утвержение вам тигигуя лета...."

/ 107, б.469-470 /

Прыведзеныя дакумэнты сьведчаць, што мітрапаліт Аляксей зь Дзьмітром арганізавалі змову супраць Альгэрда й плянавалі паход на Літву. Мітрапаліт ўважаў Альгэрда за паганіна, а сам бяручы татарскі ярлык абавязваўся ў цэрквах маліцца за ханаў. Калі Альгэрд заступіўся за цесьця, князя цьверскога, а з дапамогай Альгэрду прыйшоў князь смаленскі, мітрапаліт адлучае князёў ад царквы. Альгэрда адлучаць ня мог, бо вылезлаб шыла зь мяшка, яго паганцам зрабілі,"ворагам нашае веры й крыжа ". Як на гэта зарэагаваў Альгэрд ? Ён напісаў патрыярху Філатэю.

"От цара литовского Олгерда к патриарху поклон.Прислал ты ко мне грамоту с человеком моим Федором, что митрополит жалуеться тебе на меня, говорит так: "царь Ольгерд напал на нас". Не я начал нападать, они сперва начали нападать, и крестного целования, что имели ко мне, не сложили и клятвенных грамот ко мне не отослали. Нападали на меня девять раз, и шурина моего князя Михаила тверского клятвенно зазвали к себе, и митрополит снял с него страх, чтобы ему прийти и уйти по своей воле, но его схватили. И зятя моего нижегородскаго князя Бориса схватили и княжество у него отняли; напали на зятя моего, новосильского князя Ивана и на его княжество, схватили его мать и отняли мою дочь, не сложив клятвы которую имели к нам. Против своего крестного целования, взяли у меня города: Ржеву, Ситку, Гудин, Осечень, Гарышено, Рясну, Луки Великия, Кличев, Вселук, Волго, Козлово, Липицу, Тесов, Хлепень, Фесмин городок, Березуеск, Калугу, Мценеск. А то все города, и все их взяли, и крестного целования не сложили, ни клятвенных грамот не отослали. И мы, не стерпя всего того, напали на них, а если не исправятся ко мне, то и теперь не буду терпеть их. По твоему богословению митрополит и доныне богословяет их на пролитие крови. И при отцах наших не бывало таких митрополитов, каков сей митрополит!-- богословляет Московитян на пролитие крови, и ни к нам не приходит, ни в Киев не наезджает. И кто поцелует крест ко мне, и убежит к ним, митрополит снимает с него крестное целование.Бывает ли такое дело на свете, чтобы снимать крестное целование ? Иван Козельский, слуга мой, целовал крест ко мне с своею матерью, братьями, женою и детьми, что он будет у меня, и он покинув мать, братьев, жену и детей, бежал, и митрополит Алексей снял с него крестное целование. Иван Вяземский целовал крест и бежал, и порук выдал, и митрополит снял с него крестное целование. Нагубник Василь целовал крест при епископе, и

епископ был за него поручителем, и он выдал епископа в поруке, и бежал, и митрополит снял с него крестное целование. И многие другие бежали, и он всех разрешает от клятвы, то есть от крестнаго целования. Митрополиту следовало боголсловить Московитян чтобы помогали нам, потому, что мы за них воюем с немцами. Мы зовем митрополита к себе, но он не идет к нам: дай нам другаго митрополита на Киев, Смоленск, Твер, Малую Русь, Новосиль, на Нижний Новгарод ". Напісана не пазьней, як у ліпені 1371 г. /106, н.24, б.136-140 /

Які адказ даў патрыях Філатэй Альгерду, мы ня ведаем. Патрыяршыя дакумэнты выдадзеныя пагрэцку, беларускія эміграцыйныя вучоныя ня хочуць імі заняцца. Яны перакладаюць у беларускую мову Плятона, Сакрата, каб ня сплямiць сваёй навуковай ступені.

Мы маем дзьве патрыяршыя граматы з 1371 г. да мітрапаліта Аляксея. Адну залучаем у "Дадатках", а другую друкуем.

"Преосвященный митрополит киевский и всея Руси, пречестивый, во Святом Духе возлюбленый брат и сослужитель нашей мерности: благодать и мир от Бога да будет с твоим святительством. Грамоту твою, посланную с твоим человеком Аввакумом, я получил и узнал из нея, о чем ты написал и донес. Да будет тебе известно, что не задолго перед сим снарадил я своего добраго человека и послал к твоему святительству по тому поводу, что великий князь литовский прислал ко мне свою грамоту, в которой пишет много. Почему я нашел нужным послать к твоему святительству человека своего с грамотою нашей мерности, из коей ты в точности узнаеш, что писал великий князь литовский. После того, как мой человек отправился, пришел от тверскаго великаго князя Михаила чернец с его грамотою. Получив эту грамоту, я узнал, что он писал мне; а писал и он много, между прочим, требовал, чтобы ему судиться с тобою, чтобы твое святительство пришло сюда на собор, а он пошлет на суд своих бояр. Что касается до меня, то как мог я не дать ему суда ? Поетому я написал к твоему святительству с выше упомянутым человеком, как ты узнаеш из моей грамоты, чтобы ты, если можно, пришел сюда, или послал своих бояр, и князь тоже бы послал своих бояр, дабы мог состояться суд. Тепер же когда пришел твой человек Аввакум и узнал из твоей грамоты и его слов, о чем ты писал и просил. Но, подражая миротворцу Христу, отвечаю и наказываю тебе: не вижу я ничего хорошаго в том, что ты имееш соблазнительные раздоры с тверским князем Михаилом, из за которых нам нужно ехать на суд; но как отец и учитель, постарайся примириться с ним и, если он в чем либо погрешив, прости его, как своего сына и имей с ним мир как с прочими князьями. А он, как я пишу к нему, должен принести раскаяние и просить прощения. Вот что мне кажется добрым и полезным: пусть так и будет, без всякаго прекословия. Если же вы не хотите этого, а ищите суда, то я не препятствую суду, но смотрите, чтобы он не показался для вас тяжким. Мерность наша, как сказано, написала грамоту к тверскому князю, которую и посылаю с твоим человеком Аввакумом. Когда он дойдет до твоих рук, отдай ее моему человеку,которого я послал туда, и дай ему своего толмача, с которым бы он пошол к князю, показал ему как первую, так и настоящую мою грамоту, которую пишу теперь о мире, и передал

мои слова о том, чтобы он склонился к покаянию и примирению. Надеюсь, что он не поступит иначе, а так, как я пишу нему.

Твое святительство хорошо знает, что когда мы рукаполагали тебя, то рукаполагали в митрополита киевскаго и всея Руси, -- не одной какой нибудь части, но всей Руси; теперь же слышу, что ты не бываешь ни в Киеве, ни в Литве, но в одной только русской стране, все же прочия ты оставил без пастырскаго руководства, без отеческаго надзоря и наставления. Это -- тяжкое упущение и противно преданию священных канонов. Тебе следует обозревать всю рускую землю и иметь отеческую любовь и расположение ко всем князям,-- любить их равно и показывать к ним одинаковое расположение, благосклонность и любовь, а не так, чтобы одних из них любить, как своих сынов, а других не любить, но всех равно иметь своими сынами, всех равно любить, тогда и они будут воздавать тебе полною и великою доброжелательностию, любовию и покорностию; а сверх того, ты получишь еще помощь от Бога. Знай так же, что я написал к великому князю литовскому, чтобы он, по старому обычаю, любил и почитал тебя как и другия русские князя, и, когда ты отправишься в его землю, показывал бы тебе великую честь, внимательность и любовь, так чтобы мог безбедно путешествовать по земле его. И ты с своей стороны старайся, сколько можно, иметь к нему такую же любовь и расположение, как и к прочим князьям, потому что под его властию находится христоименный народ Господен, нуждающийся в твоем надзоре и наставлении, и тебе крайне нужно иметь с ним любовь, дабы видеть и поучать как его, так и народ Божий. Исполняй это со всем усердием, без всякаго прекословия. О прочем наша мерность пространее написала тебе с своим человеком Иоаном, и ты узнаеш об этом в точности."

/ 106, н.28, б. 156-160 /

Патрыаршая грамата, паводле Я. Мэендорфа, напісана ў верасьні 1371 г. Ён кажа: "The pressure to divide the metropolitante, as Callistos had done in I355, became very strong... Philotheos dicided to handle it in a way which would avoid the division of the metropolitanate. The architect of the elaborate diplomatic game needed to attain that goal will be the Bulgarian monk Cyprian, envoy of Philotheos to Russia in I372-I373, and a close friend of monastic circles in northern Russia...On 2 December I375, in Constantinople, Philotheos consecrated his former envoy to Russia... Cyprian, as Metropolitan of Kiev, Rus and Lithuania. The title was unusul, as well as the timing: Metropolitan Alexis was still alive and his title was "metropolitan of Kiev and all Russia "... The appointment of another metropolitan during the lifetime of the incumbent required the exercise of extreme oikonomia, Philotheos was concerned that, in territories controlled by Olgierd, such a numerous nation was abandon withaut episcopal supervision, and was in danger of utter catastrophe and spirtual perdition, by being united to another church ".

/ 103, б.196, 199, 200, 201 /

Прыведзеныя дакумэнты сьведчаць, што духавенства ў Вялікім Княстве Літоўскім апынулася ў вельмі цяжкой сытуацыі. На адной старане стаялі - мітрапаліт Аляксей і патрыярх Філатэй, на другой старане - вялікі князь Альгэрд. Па якой старане стаць, каго бараніць, каго слухаць ? Праваслаўны элемэнт у Вялікім Княстве Літоўскім быў дамінуючым, а мітрапаліт Аляксей праклінаючы Альгэрда разлічваў выклікаць смуту сярод праваслаўных, давесьці да яўнага бунту. У верасьні 1371 г., калі патрыярха спахваціўся, што аднастароння патрактаваў літоўска-маскоўскі канфлікт, паступова наступала распружаньне й літоўскае праваслаўнае духавенства пачула маральную палёгку. У сьнежані 1375 г. адбылася хіратонія Кіпрыяна, які "undoubtedly gained the confidence of Olgerd, and later of his son Jagiello, who probably was an Orthodox Christian". / 103, б.202 /

Хто быў япіскапам у Полацку ў крытычным пэрыядзе крызысу, г.зн. зь сьнежаня 1368 г. да верасьня 1371 г., мы ня ведаем. Полацкі уладыка, апрача сваіх царкоўных паўнамоцтваў, ён меў паўнамоцтвы сьвецкія -- рэпрэзантаваў палачанаў, быў іх прадстаўнікам і ад імя іх пячатаў дакумэнты сваёю пячаткаю. Над полацкім уладыкам Альгэрд улады ня меў. Альгэрд мог абвінаваціць полацкага ўладыку, але ня меў права яго судзіць. Толькі мітрапаліт меў паўнамоцтвы ўлады над япіскапамі, мітрапаліт меў права судзіць.

Ці мог Альгэрд быць абыякавым, што ў полацкага ўладыкі паўнамоцтвы царкоўныя й сьвецкія ? Нам здаецца, што ён ня быў абыякавым і вырашыў абмежаваць уладу полацкага ўладыкі, пакідаючы яму толькі царкоўныя справы. Полацкім князем быў Андрэй, найстарэйшы сын Альгэрда. Яму было каля 50 год і пара гадоў пракняжыў у Пскове, пабачыў Ноўгарод і быў асвоены з вечавымі зборамі й пастановамі. Яму даручыў Альгэрд пазбавіць полацкага архірэя сьвецкіх паўнамоцтваў. Андрэя ў Пскове ўрачыста хрысьцілі ў 1342 г.

Андрэй пакінуў дуалістычную рэпрэзантацыю, ня зычыў нарушаць старую традыцыю. На месца япіскапа прыйшла меская рада /савет /. Альгэрд праз Андрэя меў мажлівасьці кантраляваць мескую раду, намінуючы туды давераных мяшчанаў. Зь хвілінаю, як полацкі ўладыка перастаў быць прадстаўніком палачанаў і пячатаць сваёю пячаткаю полацкія дакумэнты, палачане зрабілі сабе мескую пячатку й на ёй напісалі: ПЯЧАТКА ПОЛАЦКАЯ І СЬВЯТОЙ САФІІ ". Храм сьвятой Сафіі быў патрональнай царквой палачанаў, а не полацкага ўладыкі. Ён быў пабудаваны полацкім князем Усеславам Чарадзеям у сярэдзіне XI ст. Такім чынам, легенда пячаткі мае ў сабе глыбогі зьмест, у ёй спалучана дзьве гістарычныя традыцыі. Традыцыя тагачаснае Полачыны й традыцыя старажытнай крывіцкай дзяржавы, сымбалем якой была сьвятая Сафія ў Полацку.

Дасьледчыца полацкіх граматаў А.Харашкевіч кажа: "Применение городской печати стало привилегией исключительно полоцких горожан, выступавших в самих грамотах под различными наименованиями: "мужи-полочане, "полочане","бояре", "бояре, мещане и все поспольство", "мещане" и т.д... Примечательно, что мещане могли скреплять ею грамоты, написаные исключительно от имени этого слоя городского населения ".
/ 8, б.140 /

